6 верасня 2019 | № 33 (644)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Новая справа Васіля Стуса**

Стар. 9

## СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК: АБАРАНЯЙ СВАЕ ПРАВЫ!



Самы заходні і адначасова самы паўднёвы абласны цэнтр краіны 6–8 верасня афіцыйна адзначае свой Мілленіум




# Свята, якое нам неабходна

**«Шануй сваё! Барані сваё!» — гэтая фраза магла б быць дэвізам беларускага войска**



Сяргей ПУЛЬША

Войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гетмана Астрожскага 505 гадоў таму ўшчэнт разбіла армію рускага цара Васіля III у бітве на рэчцы Крапіўна пад Оршай.

Гэты дзень неафіцыйна абвешчаны Днём беларускай вайсковай славы. Але дзівіць, што дагэтуль неафіцыйна. Асабліва ў сённяшніх варунках, калі незалежнасць і суверэнітэт Беларусі — пад пагрозай. А сучасная армія перажывае, скажам так, не лепшыя часы ў іміджавым плане.

Нашаму войску не хапае менавіта такіх святаў. А айчынныя генералы, узгадаваныя ў савецкай парадыгме, проста адмаўляюць нашу гісторыю. Для іх прыкладам з'яўляецца не незалежная Беларусь і не ВКЛ, а «вялізны і магутны» СССР і Другая сусветная вайна. І нават не Другая сусветная — яе яны па звычцы завуць Вялікай Айчыннай.

Перамога пад Оршай — гэта не толькі перамога меншага войска над большым. Яна была дасягнутая, згодна сведчанням гісторыкаў, ледзьве не з мінімальнымі людскімі стратамі для войска ВКЛ. Паводле падлікаў, з «нашага боку» загінулі толькі 4 прадстаўнікі «вялікіх паноў» і 500 рыцараў (простую пяхоту тады ніхто не лічыў). З маскоўскага — толькі ў палон трапілі 612 «баяраў», у тым ліку і камандаванне арміяй.

Сённяшнія генералы наракаюць на «недахоп патрыятычнага выхавання» і на тое, што ў выніку ніхто не хоча ісці ў войска. Ім, канешне, можна было б адказаць цытатай, якую інтэрнэт памылкова прыпісвае Манэргейму: «Перш, чым выдаткаваць вялікія грошы на абарону, трэба стварыць народу жыццё, якое варта было б бараніць». Сказаў гэта, аднак, не Карл Манэргейм, стваральнік абарончай лініі, якая абышлася фінам у 621 мільён марак, а міністр фінансаў гэтай краіны Вяйне Танер. Але справа не ў тым, хто сказаў, а што сказаў.

Як вядома, войска Астрожскага пад Оршай складалася ў асноўным з «прызыўнікоў» і «добраахвотнікаў». Па тых (дый па ўсіх) часах, каб наймаць войска, былі патрэбныя грошы. Шляхецкія ўладанні ВКЛ былі вызваленыя ад дзяржаўных падаткаў. Каб атрымаць грошы на войска, вялікаму князю была патрэбная згода Сейма, але гэтыя выдаткі блакавалі дэпутаты з цэнтральных ваяводстваў дзяржавы. Ім не было справы да войнаў, якія вяліся на межах. Масковія — цэнтралізаваная да дэспатызму дзяржава з жорсткай падатковай сістэмай — у гэтым сэнсе выйгравала. Мела грошы, наймала генуэзскую пяхоту, па ўсёй Еўропе шукала артылерыйскія тэхналогіі, майстроў і артылерыстаў. Такім чынам, у войску Астрожскага былі патрыёты, а не найміты. І гэта яшчэ адзін прыклад, які наша дзяржава магла б выкарыстаць у «патрыятычным выхаванні». Але генералы цураюцца сваёй гісторыі, аддаючы перавагу гістарычнай міфалогіі.




Кажуць, што ў выніку бітвы пад Оршай не была дасягнутая галоўная мэта — узяць Смаленск, таму яна была, нібыта «безвыніковай». Але вынік, насамрэч, быў агромністы: варожая навала на Беларусь з Усходу спынілася на 22 гады. Саюз Святой Рымскай Імперыі і Лівоніі супраць ВКЛ імгненна развалілася. Крымскі хан, дазнаўшыся пра Оршу, таксама вырашыў не лезці на тэрыторыю сённяшняй «Сінявокай». У выніку XVI стагоддзе стала залатым стагоддзем беларускай культуры.

Між іншым, у гэтыя ж дні нашы суседзі адзначаюць адзін з дзён вайсковай славы Расіі — дзень Барадзінскай бітвы. Якая таксама ў тактычным плане не дала нічога. Аднак жа святкуюць! Увогуле, у Расіі аж 17 (!) дзён вайсковай славы. А ў нас і аднаго цураюцца.

А якія яшчэ даты могуць быць «беларускай вайсковай славай»? Звыклае 23 лютага, калі ўтвораная Чырвоная Армія прыняла свой першы бой — і была разгромленая? 9 траўня, 3 ліпеня — занятыя. Дый яны савецкія, а не беларускія. Слуцкае паўстанне? Грунвальд? Дык ад гэтых датаў нашы ўлады таксама збягаюць як ад агню. Пытанне толькі, чаму і навошта.

Можа быць, таму, што яны ніяк не звязаныя з савецкімі міфалагемамі, з тым, што «мы з рускімі гнілі ў адных акопах» ды «братнія народы»?

Але затое гэтыя даты выдатна сведчаць пра тое, што ў незалежнай Беларусі, у пераемніцы ВКЛ, могуць быць свае перамогі, нацыянальныя інтарэсы і ўрэшце — свой гонар і годнасць. А не «супольныя з іншымі».

«Шануй сваё! Барані сваё!» — гэты слоган мог бы быць дэвізам беларускага войска. Канешне, у ім шмат чаго трэба змяніць. Але галоўнае, што мы павінны выкараніць, — гэта сумнеў у тым, што нашае войска будзе нас бараніць у выпадку любой агрэсіі — ці з Захаду, ці з Усходу. Цяпер жа наконт дзеяннай нашай арміі ў выпадку навалы з Усходу (больш верагоднай, чым атака з Захаду) — мы не ўпэўненыя.

# Пад забаронай снегавік, карціна, плакат і шмат іншага

НЧ

**Штогод грамадзяне Беларусі атрымліваюць тысячы адміністрацыйных пакаранняў. Але, бадай, самыя абсурдныя выпадкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці ў Беларусі, звязаныя з правам на мірныя сходы.**

Вось толькі некалькі прыкладаў з 2019 года:

- 30 студзеня штрафам у 1 базавую велічыню (25,5 руб.) пакараная Юлія Нічыпарук з Брэсту за пікетоўшчыка-снегавіка, зleпленага ёе дзецьмі і ўпрыгожанага ўлёткамі супраць будоўлі акумулятарнага заводу.
- 21 сакавіка 72-гадовая пенсіянерка Ніна Багінская аштрафаваная на 40 б.в. (1020 рублёў) за тое, што гуляла па праспекце Незалежнасці з нашыўкай на паліто «Свабоду народу». На пагашэнне ранейшых штрафаў у грамадскай актывісткі ўжо забіраюць 50% пенсіі.
- У Мінску ў Кіеўскім скверы 24 сакавіка адбыўся санкцыянаваны ўладамі мітынг-канцэрт, прымеркаваны да 101-годдзя з дня абвяшчэння незалежнасці БНР. Пасля выступу на сцэне Змітра Дашкевіча затрымала міліцыя, суд аштрафаваў за заклікі да ўдзелу ў іншым масавым мерапрыемстве.
- 25 сакавіка Уладзіслаў Швед пакараны штрафам у 15 б.в. за допіс у пабліку «Мая краіна Беларусь» ва УКантакце — прапанову выйсці на плошчу Якуба Коласа ў Мінску, каб адзначыць 101-я ўгодкі БНР.
- 17 красавіка пакараныя на 30 б.в. (765 рублёў) кожны з заяўнікаў мітынгу і канцэрту 24 сакавіка ў Кіеўскім скверы сталіцы ў сувязі з адсутнасцю аплаты за паслугі міліцыі па заканчэнні 10-дзённага тэрміну пасля правядзення мерапрыемства — Юрась Губарэвіч, Вольга Кавалькова, Ігар Барысаў і Мікалай Казлоў. Між тым, у гэты час заяўнікі акцыі чакалі адказу на прэтэнзію, накіраваную ва УУС на парушэнне дамовы і не якасна аказаныя паслугі.
- 22 траўня суд пакараў штрафам актывістку Вольгу Нікалайчык за ўшанаванне памяці яе дзеда на Вайсковых могілках каля помніка савецкім салдатам без адпаведнага дазволу Мінгарвыканкаму.
- 2 чэрвеня віцьблянін Дзяніс пакараны штрафам у памеры на 30 б.в. за тое, што, згодна пратаколу, «арганізаваў і правёў іншае масавае мерапрыемства — культурнае мерапрыемства, выставу карцін невядомага мастака ў складскім памяшканні».
- 19 чэрвеня штрафамі ў 10 б.в. (255 рублёў) пакараныя Лідскім раёсудом Сяргей Пантус і Вітольд Ашурак за пікет каля райвыканкама з плакатам «Мёртвая Дзітва», каб прыцягнуць увагу да праблемы забруджвання ракі. Між тым, за нанясенне шкоды прыродзе падчас скідаў у раку Дзітва пад Лідай у дачыненні да мясцовай ЖКГ была распачата адміністрацыйная справа.
- 10 ліпеня суд пакараў гродзенскага гісторыка Мечыслава Супрона штрафам у 5 б.в. (127 рублёў) за адзіночны пікет супраць забруджвання ракі Нёман — ён вывесіў на мосце расцяжку з надпісам «Нёман атручаны лідскай ЖКГ».

# Жамчужны чакае...

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Нарэшце прыйшоў ліст ад вязня сумлення і палітвязня Міхаіла Жамчужнага.**

Міхаіл з 29 ліпеня па 29 жніўня знаходзіўся ў «летнім адпачынку» (калі так можна назваць знаходжанне ў ПКТ — памяшканні камернага тыпу). Да гэтага 70 сутак Жамчужны правёў у штрафным ізалятары. Па той жа фармальнай прычыне — «за адмову перайсці ў атрад». Там, паводле яго інфармацыі, знаходзяцца асуджаныя з нізкім сацыяльным статусам, і зносіны з імі непазбежна перавядуць яго ў гэтае турэмнае саслоўе.

Зараз рэкорд Жамчужнага — 470 сутак ШІЗА (з ліпеня 2017 года, калі ён быў пераведзены ў ПК-9 г. Горкі Магілёўскай вобласці).

Для даведкі: згодна з Правіламі ўнутранага распарадку папраўчых устаноў, зацверджаных пастановай МУС ад 20 кастрычніка 2000 года (з улікам змяненняў і дапаўненняў ад 30 снежня 2016 года), тым, хто адбывае пакаранне ў ШІЗА, забараняюцца прагулкі, чытанне, лісты, заняткі спортам. Асуджаным не дазваляецца браць з сабой ежу і асабістыя рэчы, за выключэннем ручніка і туалетных прыналежнасцяў. Асуджаныя вымушаныя спаць на нарах, якія адшпільваюцца ад сцяны на час адбою. Тэмпературны рэжым у камеры нізкі, што прымушае асуджаных некалькі разоў за ноч уставаць і рабіць зарадку. ПУР абмяжоўваюць знаходжанне ў ШІЗА дзесяццю суткамі. Тым не менш, да асобаў, якія парушаюць устаноўлены парадак адбыцця пакарання, прымяняюцца меры спагнання, прадугледжаныя артыкулам 112 КВК, у тым ліку і паўторнае змяшчэнне ў ШІЗА.

Чаму Жамчужнага так прэсуюць? І гэта — у 64 гады?

На мой погляд, час беларускім праваабаронцам падумаць аб вылучэнні Жамчужнага на міжнародную прэмію ў галіне правоў чалавека. Бо ён на працягу больш чым двух гадоў не здаецца на літасць адміністрацыі калоніі, і ўсе спагнанні абскарджвае ў судзе як незаконныя.

Ён піша, што яго лісты падвяргаюцца дбайнай праверцы. Так, за дзесяць дзён у жніўні з чатырох адпраўленняў з калоніі «выйшла» толькі адно. Лісты на адрас Вольгі Нікалайчык, Мікалая Дзядка, Леаніда Свеціка былі канфіскаваныя па акцэ з фармулёўкай «за цынізм». Акрамя таго, у яго канфіскавалі ліст з Вашынгтона, у якім ён быў праінфармаваны аб узнагароджанні яго юбілейным медалём «100 гадоў БНР» і запрашэннем на сустрэчу для атрымання ўзнагароды.

Цяпер Жамчужны збянтэжаны: як гэты медаль атрымаць? Ён мае намер падрыхтаваць даверанасць на імя Вольгі Нікалайчык і адправіць яе ў далёкі Манрэаль. Але, зноў жа, патрэбныя грошы на пералёт, якіх ні ў Жамчужнага, ні ў Нікалайчык няма.

І яшчэ адна неверагодная навіна ад палітвязня: за час свайго зняволення ён падрыхтаваў манаграфію па плазменнай апрацоўцы металаў і сплаваў. Ён марыць яе выдаць і прадставіць на Нобелеўскую прэмію як буйное дасягненне ў тэхніцы. І гэта — не жарт. З дапамогай гэтых звышмоцных металаў ён плануе стварыць лятальныя апараты тыпу «талерак» (па прынцыпе, як ляцяць чмель).

Так што Міхаіл Жамчужны не здаецца і просіць яго не забываць. Наперадзе (зразумелая справа, на волі) у яго шмат планаў, у тым ліку паездка ў Манрэаль і рашэнне праблемы асабістага статусу.

Хочацца пажадаць вязню хутчэйшага вызвалення ад турэмных кайданоў і здзяйснення ўсіх яго мараў.

# «Мне сказалі ў райвыканкаме прыйсці на пасяджэнне — я прыйшла»

**Першыя пасяджэнні выбарчых акруговых камісій па ўсёй Беларусі прайшлі 3 верасня. На іх выбіраліся старшыні і іншыя кіраўнікі АВК, чальцы камісіі размяркоўвалі паміж сабой дзяжурства і вырашалі іншыя пытанні арганізацыйнага характару.**

Некаторым камісіям спатрэбілася толькі дзесяць хвілін для вырашэння гэтых пытанняў. Паводле інфармацыі назіральніка кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Леаніда Мархоткі, Салігорскай выбарчай акруговай камісіі, якая размясцілася ў Салігорскім райвыканкаме, спатрэбілася 35 хвілін для вырашэння ўсіх пытанняў.

На пасяджэнні прысутнічалі таксама назіральнік ад БРСМ, назіральнік ад райвыканкама і журналіст газеты «Шахцёр». Акрамя іх на пасяджэнне камісіі прыйшла грамадзянка Вольга Анатольеўна Бабусько. Леанід Мархотка папрасіў старшыню камісіі Мікалая Маскевіча паведаміць, каго прадстаўляе прысутная грамадзянка.

«Я не ведаю, каго я прадстаўляю. Мне сказалі ў райвыканкаме прыйсці на пасяджэнне — я прыйшла», — сказала Бабусько.

Тады адна з сябраў выбарчай камісіі схапіла сшытак з рэгістрацыяй прысутных, з якой даведаліся, што Бабусько прадстаўляе Беларускі саюз жанчын. Варта адзначыць, што Беларускі саюз жанчын уваходзіць у тройку самых прадстаўнічых грамадскіх аб'яднанняў у акруговых выбарчых камісіях Беларусі.

**Паводле «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

# Лыжка дзёгцю ў Свята беларускага пісьменства

Міхась ВАРАНЕЦ

**Прайшоў XXVI Дзень беларускага пісьменства ў Слоніме, афіцыйная частка якога пачалася адкрыццём на плошчы Леніна помніка Льву Сапегу. Вельмі ўразіла праграма ўрачыстага адкрыцця — і сваёй прабеларускасцю, і высокім мастацкім густам. Свята сапраўды атрымалася! На жаль, не абышлося без лыжкі дзёгцю ў дзежцы з мёдам.**

На ўрачыстым адкрыцці старшыня праўлядага Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец першыя тры сказы свайго доўгага выступу прамовіў на «трасянцы», а потым загаварыў па-руску.

Не сакрэт, у нашых школах нават многія настаўнікі беларускай мовы з дзецьмі размаўляюць па-руску, і гэта зніжае аўтарытэт і мовы, і такіх настаўнікаў у вачах дзяцей. Але на ўроку ўсе настаўнікі беларускай мовы гавораць па-беларуску. Адно суцяшае, на фоне агульнай узнёсласці, якая панавала падчас урачыстага адкрыцця Дня беларускага пісьменства ў Слоніме, пацярпеў аўтарытэт толькі самога Чаргінца.

На адкрыцці помніка Льву Сапегу па-руску прамаўляў таксама толькі адзін чалавек — скульптар, аўтар помніка, Іван Міско, які дарэчы, родам са Слонімскага раёна і ганаровы грамадзянін горада Слоніма. Ён проста быў абавязаны звярнуцца да землякоў на нашай роднай мове. Не звярнуўся, не ўцяміў, не ўсвядоміў... Чыноўнікі — і тыя дапетрылі, размаўлялі па-беларуску, у тым ліку старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў, які нарадзіўся і вырас у Расіі.

На ўрачыстым адкрыцці Дня беларускага пісьменства не было старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў ці прадстаўніка гэтага саюза, не было на свяце і бел-чырвона-белых сцягоў. На цэнтральнай пляцоўцы, побач з галоўнай сцэнай, цягам двух дзён праходзіў «Фестываль кнігі і прэсы», асноўную частку якога быў павільён «Кнігі і прэса Рэспублікі Беларусь» (газеты, дарэчы, раздаваліся бясплатна ўсім ахвотным). Тут, як у анекдоце, калі на плоце напісана «дровы», гэта не азначае, што яны насамрэч ляжаць за гэтым плотам. «Новага Часу» і іншых недзяржаўных газет у павільёне не было. Лічу, неапраўдана дзяржаўныя СМІ, і нават некаторыя недзяржаўныя, назвалі Дзень беларускага пісьменства ў Слоніме нацыянальным. Я назваў бы яго «часткова нацыянальным».

На галоўнай сцэне панавалі беларускае слова і беларуская песня, як, дарэчы, і на некаторых перыферыйных пляцоўках. А вось на цэнтральнай Чырвонаармейскай вуліцы грымела, «рэзала вуха» рускамоўная папса. Магчыма, песенным калектывам, якія выступалі на гэтай вуліцы, ніхто і не даваў асобных указанняў, і яны спявалі звыклае для сябе і для людзей за святочнымі сталамі з півам і шашлыкамі.

Разам з тым, станоўчых эмоцыяў нашмат болей. Для мяне і маёй жонкі свята пачалося 31 жніўня з прагляду ў Слонімскім цэнтры культуры і адпачынку выдатнага спектакля «Вечар» па п'есе Аляксея Дударава ў выкананні акцёраў Купалаўскага тэатра. 1 верасня з 10 гадзін раніцы і да самага закрыцця Дня беларускага пісьменства мы былі ў горадзе і атрымлівалі асалоду ад самой атмасферы свята, за што вялікі дзякуй і арганізатарам. А найперш, дзякуй самім слонімцам, бо менавіта яны сваёй душэўнасцю і светлымі ўсмешкамі стваралі такі радасны, узнёслы настрой. Для кагосьці гэта быў і моўны «лікбез», і прышчэпка прыгожага беларускага слова, прышчэпка пазітыўнага стаўлення да нашай мовы, хай, у тым ліку, і праз вядомую чарку і скварку.

Разам з жонкай быў міжвольным сведкам, як сталая жанчына падняла чарку з гарэлкай і сказала маладзейшым бяседнікам: «Вып'ем за Дзень беларускага пісьменства! Эта вялікі празнік усесаюзнага значэнія!» Вядома, з чым звязаны «ўсесаюзныя» асацыяцыі прамоўцы. Але тост мне спадабаўся. Бо быў сказаны са шчырай прыязнасцю да беларускай мовы.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Розныя словы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пра словы і маўчанне існуе безліч прымавак і крылатых выразаў. Але амаль усе яны сыходзяцца ў адным — маўчанне больш карыснае.**


Фота www.lifedeeper.ru

На тыдні мы атрымалі цэлы стос розных разважанняў ад беларускага кіраўніка. Маўляў, і аўтамабіль «Тэсла» яму падараваў Ілан Маск, калі пабачыў Лукашэнку на матацыкле (Цікава, дзе Маск мог гэта пабачыць, і ці ведае ён увогуле пра свой падарунак?). І пра сына Колю, які патлумачыў, што такое «даркнэт». І яшчэ шмат чаго. Аднак выказванні Аляксандра Рыгоравіча нельга назваць бяскрыўднымі, бо ён усё ж кіраўнік дзяржавы.

Вось заявіў ён на міжнароднай канферэнцыі па барацьбе з тэрарызмам у Мінску: «Мы вымушаныя былі са сваімі братамі, блізкімі людзьмі (з Украінай) цалкам закрыць мяжу наглуха, яшчэ больш, чым з Паўночнаатлантычным блокам, які для нас заўсёды, з даўніх часоў, нібыта здаваўся ворагам нумар адзін». «Ну а там, дзе зброя ў руках у звычайных людзей і асабліва... нацыяналістычна настроеных, — чакай тэрарызму», — дадаў ён.

Гэта, зразумела, выклікала рэакцыю з боку братоў-украінцаў. Прадстаўнік Дзяржпагранслужбы Украіны Андрэй Дземчанка проста зняпраўдзіў словы кіраўніка Беларусі, заявіўшы, што, па-першае, паводле іх статыстыкі, узровень незаконнага трафіку зброі праз мяжу значна зменшыўся. За восем месяцаў 2019 года на мяжы з Беларуссю ўкраінскія памежнікі выявілі 38 адзінак зброі, і гэтая лічба, па словах Дземчанкі, «у разы меншая за аналагічны перыяд мінулага года».

Па-другое, яшчэ не вядома, што азначае слова «зброя». Тое, што спрабавалі вывезці з Украіны ў Беларусь, — гэта паляўнічая, газавая, халодная або пнеўматычная зброя. Толькі адзін (!) выпадак спробы правезці ў нашу краіну зброю тычыўся баявой прылады.

І, па-трэцяе, з тых 38 адзінак зброі, што затрымалі ўкраінскія памежнікі, 20 ехалі з Беларусі ва Украіну, і 18 — наадварот. Так што гэта ўкраінцы могуць закінуць Аляксандру Рыгоравічу «дэстабілізацыю сітуацыі ў рэгіёне».

Што ж тычыцца «закрыцця мяжы» і іншага — напэўна, кіраўнік Беларусі шчыра верыць у тыя страшылкі, якія яму перад сном расказваюць рознага кшталту сілавікі. Інакш бы ён згадаў, напрыклад, справу «нацыяналістаў» з «Белага легіёна», якім так і не прад'явілі абвінавачвання ў тым жа захоўванні зброі. Дарэчы, аднаму з асноўных фігурантаў, Міраславу Лазоўскаму, у сувязі з гэтым не аддалі нібыта яго маёмасць — два аўтаматы, «знойдзеныя» следчымі ў яго машыне.

Не дайшла да свайго лагічнага завяршэння і справа па запоўненым зброяй джыпе, які, маўляў, прарваўся праз украінскую мяжу на тэрыторыю Беларусі напачатку 2017 года. Украінцы той факт адмаўлялі, а дзяржаўныя СМІ паказалі пра гэта шматлікія сюжэты. Але той джып неяк выпарыўся — з усімі затрыманымі разам з аўто і з крымінальнай справай па факце злачынства.

Праблема ў тым, што Лукашэнка шчыра верыць у тое, што ён кажа. А залежныя ад яго чыноўнікі (і сілавікі ў тым ліку) павінны «маляваць карцінкі», каб спраўдзіць яго веру. І ад гэтага кіраўнік краіны пачынае верыць у «страшылкі» яшчэ больш.

Нічога б не здарылася, каб беларускі правадыр на канферэнцыі па супрацьдзеянні тэрарызму абмінуў увагай Украіну. Ці ўвогуле на ёй не прысутнічаў і не прамаўляў. І адносіны з суседзямі былі б лепшыя, і ў лужыну б мы не селі.

**Пра рэформу беларускім уладам кажуць даўно, але бачнасць «стабільнай і квітнеючай краіны» палітычна важнейшая, чым спробы рэальна дамагчыся росквіту**

І ўвогуле, не на той канферэнцыі Аляксандр Рыгоравіч павінен быў прысутнічаць. Адначасна з антытэрарыстычным мерапрыемствам у краіне адбываўся Кастрычніцкі эканамічны форум. У яго межах прайшоў прэс-сняданак даследчага цэнтру ІПМ «Рэформы на 100 мільярдаў». На ім пра перспектывы Беларусі разважаў кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Алекс Крэмер.

Паводле яго меркавання, Беларусь знаходзіцца ў адным кроку ад фінансавага крызісу. Алекс Крэмер параўнаў Беларусь з сям'ёй, якая выдаткоўвае больш, чым зарабляе. «Калі сям'я траціць больш, чым зарабляе, яна праходзіць праз тры этапы. Першы — этап стагнацыі. Перспектывы росту даходаў будуць нізкімі, калі не рэструктураваць эканоміку, пра што Сусветны банк казаў яшчэ два гады таму. Наступны этап — уразлівасць да запазычанасці, якая ўтварылася. Беларусь знаходзіцца якраз на гэтым этапе. Трэцяя фаза — фінансавы крызіс», — сказаў Крэмер.

Беларусь стала ўразлівай з прычыны запазычанняў у замежнай валюце. У першую чаргу праз дзяржпрадпрыемствы, якія набралі даўгоў у валюце, каб пакрыць страты мінулых перыядаў. Акрамя таго, Беларусь брала дзяржаўныя знешнія крэдыты ў валюце.

«Траціць менш, зарабляць больш», — такую параду Сусветны банк даў беларусам. «Што тычыцца "менш траціць", у нашых рэкамендацыях мы гаворым пра субсідаванне цеплазабеспячэння і пра падатковыя льготы, — прыводзіць прыклад Алекс Крэмер. — Кажучы пра неабходнасць "больш зарабляць", мы маем на ўвазе структурныя рэформы, якія вызваляць патэнцыял росту краіны».

На думку Сусветнага банка, Беларусі перш за ўсё патрэбная рэструктурызацыя сектара дзяржаўных прадпрыемстваў. Канешне, рэструктурызацыя дзяржпрадпрыемстваў прывядзе да скарачэння працоўных месцаў. Але людзі павінны мець рэальную працу і атрымліваць за яе заробак, а не дапамагаць дзяржаве ствараць бачнасць адсутнасці беспрацоўя і атрымліваць сімвалічныя грошы.

Праўда, пра «рэструктурызацыю» беларускім уладам кажуць даўно, але бачнасць «стабільнай і квітнеючай краіны для жыцця» палітычна важнейшая, чым спробы рэальна дамагчыся эканамічнага росквіту. Але да чаго гэта нас прывядзе?

Галоўнае — гэта страта часу. А час — такі рэсурс, які не вернеш. Менавіта з-за захавання «савецкай стабільнасці» былы «зборачны цэх СССР» з найлепшымі і адукаванымі кадрамі ператварыўся ў краіну з тэхналагічна адсталымі і стратнымі прадпрыемствамі. І чым даўжэй мы будзем марнаваць час, тым больш балючым для нас будзе той самы фінансавы крызіс, на парозе якога мы знаходзімся.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Раман Кісляк

**Праваабаронца, які выступіў заяўнікам масавых акцый супраць акумулятарнага завода ў Брэсце, плануе праводзіць у верасні па два мітынгі на дзень.**

Паводле яго словаў, у Брэсцкі райвыканкам пададзены заяўкі на правядзенне цягам верасня аж 35 мітынгаў супраць акумулятарнага завода пад Брэстам. Частку з іх плануецца правесці 16–28 верасня побач з заводам у СЭЗ «Брэст», па два (14 і 15 верасня) — на стадыёне дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы «Прыбужжа» ў вёсцы Тэльмы і на пляцоўцы перад Домам культуры ў гэтай вёсцы.

«На дадзены момант на верасень заяўлена 35 мітынгаў супраць акумулятарнага завода. Іх галоўная мэта — патрабаваць канчатковага закрыцця гэтага надзвычай шкоднага для здароўя людзей прадпрыемства», — заявіў праваабаронца.

Грамадская кампанія супраць акумулятарнага завода пачалася ў рэгіёне ў студзені 2018 года. За гэты час актывісты падалі заяўкі на правядзенне ў горадзе і Брэсцкім раёне 220 мітынгаў, 12 пікетаў і 16 дэманстрацый. Улады санкцыянавалі толькі адну акцыю, якая прайшла ў мінулым годзе.

З 25 лютага 2018 года працаўнікі завода збіраюцца на плошчы Леніна ў Брэсце кожную нядзелю, каб «карміць галубоў».

### Юрый Губарэвіч



**Кіраўнік Руху «За Свабоду» склікае канферэнцыю арганізацыі, на якой плануецца вылучыць кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Хаця, згодна з заканадаўствам, такіх паўнамоцтваў у грамадскага аб'яднання няма.**

Як паведаміў СМІ Юрый Губарэвіч, удзельнічаць у выбарах плануюць каля трох дзясяткаў чальцоў арганізацыі. Усе яны пойдуць шляхам збору подпісаў. А канферэнцыя неабходная, каб нагадаць дзяржаве, што ў Беларусі ёсць Канстытуцыя, якая фактычна не выконваецца.

«Артыкул 69 Канстытуцыі, якая дае права грамадскім аб'яднанням удзельнічаць у выбарах і вылучаць сваіх кандыдатаў; прыкладна пра тое ж кажа і артыкул 5 Канстытуцыі, што дае права грамадскім аб'яднанням, нароўні з палітычнымі партыямі і групамі грамадзян, удзельнічаць у выбарчых кампаніях. Але ў нас правы грамадскіх аб'яднанняў абмяжоўваюцца, і заканадаўства (напрыклад, Выбарчы кодэкс) абмяжоўвае правы грамадскіх аб'яднанняў насуперак Канстытуцыі», — адзначыў Губарэвіч.

Губарэвіч зазначыў, што Рух «За Свабоду», — напэўна, адзіная структура з апазіцыйнага асяроддзя, якая вылучыла сваіх прэтэндэнтаў ва ўсе выбарчыя камісіі: у 110 акруговых і 7 тэрытарыяльных. Аднак са 117 вылучэнцаў вядомыя толькі чатыры чалавекі, якія ўключаныя ў склад камісій. Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына адмовіла Руху ў прадстаўленні дадзеных пра прыналежнасць вылучэнцаў у камісіі да Руху «За Свабоду» на сайце ЦВК, — маўляў, удзел Руху ў выбарчай кампаніі нязначны. «Але куды ўжо больш значныя 100 адсоткаў? Думаю, рэальная прычына адмовы — цяжка будзе растлумачыць, чаму арганізацыя, якія вылучае прэтэндэнтаў у 100% камісій, у выніку атрымлівае толькі 3%. А «Белая Русь» і БРСМ, якія вылучылі сваіх прэтэндэнтаў у 100% камісій, атрымаюць ад 80 да 90%».

### Вікторыя Азаранка



**Нягледзячы на паразу на US Open у адзіночным разрадзе, адна з лепшых беларускіх тэнісістак дайшла да паўфіналу турніру ў парным разрадзе.**

Вікторыя Азаранка ў пары з аўстралійкай Эшлі Барці выйграла ў 1/4 фіналу ў Тымеа Бабаш (Венгрыя) і Крысціны Младэнавіч (Францыя) — 2:6, 7:5, 6:1.

Варта адзначыць, што з адзіночнага разраду выбыла і Арына Сабаленка. Але таксама, як і Азаранка, яна выйшла ў паўфінал у пары з Элізай Мертэнс (Бельгія) — яны перамаглі кітаянак Сайсай Чжэн/Дуань Ін-Ін — 6:4, 6:3.

Трэцім паўфіналістам можа стаць і Аляксандра Сасновіч, якая гуляе ў пары са славачкай Вікторыяй Кужмавай. У выпадку перамогі яны згуляюць з Азаранка і Барці.

# Заплаці і пратэстуй, каб ніхто не бачыў

Анастасія ВАСІЛЬЧУК

**Напрыканцы студзеня набылі моц змены ў закон «Аб масавых мерапрыемствах», а гэта значыць, што ўжо сем месяцаў беларусы пратэстуюць па новых правілах. Але ці сталі людзі больш свабодна выказваць сваё меркаванне?**

### Што змянілася і як было раней?

Цяпер закон «Аб масавых мерапрыемствах» прадугледжвае паведамляльны парадак правядзення статычных мірных сходаў (на шэсце, як і раней, трэба браць дазвол) у заканадаўча вызначаных месцах.

Раней, каб правесці мерапрыемства нават у дазволеным месцы, трэба было падаваць заяву ў выканкам і чакаць адказу: дазволяць мерапрыемства ці не. Падстаў, каб адмовіць заяўнікам, знаходзілася шмат, прычым самых розных. Зараз трэба не пазней чым за 10 дзён паведаміць пра жаданне правесці акцыю. Праўда, улады ўсё роўна могуць яе забараніць па дзвюх прычынах: калі заяўка складзеная неналежным чынам, або калі нехта ўжо заявіў мерапрыемства ў гэтым месцы ў той жа час. Дарэчы, адмовіць па другой прычыне амаль немагчыма, улічваючы, наколькі бязлюдныя дазволеныя месцы. Напрыклад, у Мінску зараз існуе шэсць пляцовак, дзе можна зладзіць акцыю, не пытаючыся дазволу. Усё гэта — скверы і паркі, што знаходзяцца далёка ад цэнтру горада, і таму мітынг ці пікет у такіх месцах заўважыць мінімальная колькасць людзей.

Савет міністраў зацвердзіў агульны парадак аплаты паслуг міліцыі па ахове грамадскага парадку, выдаткаў на медычнае абслугоўванне і на прыборку тэрыторыі пасля правядзення масавых акцый. Пасля атрымання дазволу (або пры адсутнасці забароны) на правядзенне акцыі арганізатар павінен заключыць дамовы з міліцыяй, хуткай дапамогай і «Зелянбудам».

Да ўнясення зменаў закон прадугледжваў магчымасць такой аплаты за мірныя сходы. Аднак гэта рэгулявалася пастановамі тэрытарыяльных органаў улады, і звычайна сума аплаты вызначалася па дамоўленасці, а часам і ўвогуле не бралася. Зараз працэдура ўніфікаваная, плаціць абавязаныя арганізатары ўсіх масавых мерапрыемстваў — акрамя тых, што фінансуюцца з дзяржбюджэту. Закон дакладна ўстанаўлівае, колькі каштуе аплата паслуг міліцыі ў залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў. Напрыклад, калі на мітынг збярэцца да 10 чалавек, арганізатары мусяць заплаціць 76,5 рубля (3 базавыя



Пікет-манстрацыя, арганізаваны валанцёрскай службай ПЦ «Вясна».
Фота ПЦ «Вясна»




**Антон Самаль праводзіць адзіночны пікет супраць «закона аб адтэрміноўках».**
Фота #controlby

велічыні), але калі прыйдзе 11 (і да 100 чалавек) — аплата ўзрастае да 637,5 рубля (25 базавых). Калі на акцыю прыйдзе больш за 1000 чалавек, паслугі міліцыі будуць каштаваць 6375 рублёў. А калі праводзіць акцыю не ў спецыяльна вызначаным месцы, то сума ўзрастае яшчэ ў паўтара разы. Кошты немаленькія.

### Заплаці і пратэстуй?

Менавіта ўсталяванне тарыфаў на аплату паслуг міліцыі стала для арганізатараў масавых мерапрыемстваў самым балючым. І закранула нават тых, хто робіць зусім не палітычныя акцыі.

Наш закон «Аб масавых мерапрыемствах» вельмі шырока трактуе само паняцце «масавае мерапрыемства», з-за чаго пад яго дзеянне разам з палітычнымі сходамі трапляюць рэлігійныя, музычныя і спартовыя. І таму пасля зменаў у закон арганізатары такіх мерапрыемстваў таксама мусяць плаціць за іх правядзенне.

Напрыклад, рахунак на аплату паслуг міліцыі на суму каля 3000 рублёў выставілі вернікам-уніятам, якія хацелі правесці ў ліпені пілігрымку з Віцебска ў Полацк. Арганізатары не здолелі знайсці такія грошы і былі вымушаныя адмовіцца ад паходу. Вернікі накіравалі зварот у Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай адмяніць дзеянне пастановы Саўміна ў дачыненні не толькі да рэлігійных, але і да ўсіх некамерцыйных арганізацый. Аднак МУС адказаў, што пастанова адмененая не будзе.

У красавіку пад пагрозай апынулася правядзенне ў Смаргонскім раёне марафону «Вітаўт» і забегу «Жуктрэйл». Арганізатарам («Федэрацыі прыгодніцкіх гонак») выставілі рахунак за паслугі міліцыі больш чым на 5700 рублёў. Пры гэтым сума стартавых унёскаў ад удзельнікаў была ніжэйшая за гэты бар'ер. Толькі ў апошні момант арганізатары здолелі дамовіцца са Смаргонскім выканкамам, каб той выступіў суарганізатарам мерапрыемстваў.

У цяжкай сітуацыі апынуліся арганізатары музычных фестываляў. Вядома, што з-за непад'ёмных коштаў за паслугі МУС у Магілёве не адбыўся Inspire Fest.

Але ў першую чаргу пастанова, верагодна, была прынятая, каб адбіць ахвоту ў палітычна актыўных грамадзян арганізоўваць масавыя вулічныя мерапрыемствы. І ва ўладаў гэта атрымалася.

Арганізатары канцэрту-мітынгу да Дня Волі ў Мінску 24 сакавіка проста не змаглі аплаціць суму, якую налічыла ім міліцыя пасля мерапрыемства. Перад мерапрыемствам арганізатары заяўлялі колькасць удзельнікаў да 1000 чалавек, а, паводле падлікаў міліцыі, у Кіеўскі сквер прыйшло значна больш людзей. Адпаведна, змянілася і сума за ахову. Справа дайшла да суда, які арганізатары свята прайгралі. Яны мусяць аплаціць на карысць Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў больш за 8000 рублёў.

Па гэтай жа прычыне апазіцыйныя палітыкі адмовіліся ад правядзення санкцыянаванага «Чарнобыльскага шляху». Шэсце адбылося, але несанкцыянаванае. Калі б арганізатары вырашылі праводзіць усё ў межах закона, то сума за паслугі міліцыі перавысіла б 2000 еўра.

### Маленькія сходы — са складанасцямі

З часу ўступлення ў сілу зменаў у закон «Аб масавых мерапрыемствах» правесці пікет ці мітынг без наступстваў атрымалася толькі ў выпадках, калі колькасць удзельнікаў была меншая за 10 чалавек — тады міліцыі трэба было заплаціць 3 базавыя. Аднак і тады не абыходзілася без праблем.

Паглядзець, як працуе паведамляльны парадак правядзення мірнага сходу, першымі вырашылі валанцёры Праваабарончага цэнтру «Вясна». Яны ладзілі пікет-манстрацыю (пікет, дзе выкарыстоўваюцца плакаты з абсурднымі надпісамі) у парку Дружбы народаў, які ўваходзіць у спіс месцаў, прызначаных для правядзення мірных сходаў. Але паслугі хуткай дапамогі, міліцыі ды «Зелянбуда» ўсё роўна трэба было аплаціць. «Самым цяжкім было ўсё ўзгадніць з міліцыяй. Пастанова Саўміна патрабуе заключэння дамовы з тэрытарыяльнымі аддзеламі ўнутраных спраў, аднак мне чамусьці сказалі заключаць менавіта з ГУУС Мінгарвыканкама. На адны тэлефонныя размовы я патраціла каля дзвюх гадзін. Аддзел па масавых мерапрыемствах накіроўваў мяне ў бухгалтэрыю, адтуль — у аддзел па прафілактыцы, а адтуль — зноў у аддзел па масавых мерапрыемствах. Тобок, самі супрацоўнікі міліцыі не ўяўлялі, хто за што адказны і як працаваць па новым законе», — адзначае арганізатарка Наталля Сацункевіч.

Тое, што нават пры наяўнасці грошай для аплаты мерапрыемства бывае складана заключыць усе дамовы, зведалі і пікетоўцам грамадскай кампаніі «Пратэст BY». Маладыя людзі аб'ядналіся праз інтэрнэт, каб разам змагацца супраць прыняцця так званага «закона аб адтэрміноўках», і адным з метадаў барацьбы абралі правядзенне адзіночных пікетаў. У Беларусі адзіночны пікет падпадае пад закон «Аб масавых мерапрыемствах», а значыць, што за паўгадзіны з плакатам у руках таксама трэба заплаціць. Адзін з пікетоўцаў Антон Самаль лёгка падпісаў дамовы з міліцыяй і хуткай дапамогай, а вось з «Зелянбудам» узніклі праблемы. Цягам двух дзён розныя спецыялісты перанакіроўвалі Самаля адзін да аднаго, не тлумачачы, якім чынам хлопцу падпісаць дамову на прыборку. У выніку ў Антона атрымалася правесці пікет, які ахоўвала ажно пяць міліцыянтаў, а побач дзяжурыла брыгада хуткай дапамогі.

### Сітуацыя не палепшылася

Змены ў закон «Аб масавых мерапрыемствах», як мы бачым, не палепшылі сітуацыю з мірнымі сходамі. Увядзенне паведамляльнага прынцыпу правядзення масавых мерапрыемстваў на закінутых стадыёнах і парках на ўскрайках гарадоў не робіць гэтыя мерапрыемствы заўважнымі. А фіксаваныя тарыфы на паслугі міліцыі фактычна робяць немагчымым правядзенне масавых мірных сходаў.

Што трэба, каб можна было казаць, што сітуацыя са свабодай мірных сходаў у Беларусі палепшылася? Паводле юрыста Валянціна Стэфановіча, заканадаўства мусіць утрымліваць мінімум абмежаванняў.

«Натуральна, што ўсе масавыя мерапрыемствы павінны быць паведамляльнага характару. Абмежаванымі мусяць быць толькі сходы, якія маюць немірныя намеры ці характар. Усе нашы вуліцы, праспекты, бульвары створаныя для таго, каб мы імі карысталіся, — у тым ліку і каб праводзіць на іх дэманстрацыі, шэсці і іншыя мірныя мерапрыемствы. Таксама мы лічым, што адзіночныя пікеты ўвогуле не мусяць трапляць пад дзеянне закона, і праводзіць іх варта без паведамленняў. Усе гэтыя стандарты мусяць быць перанесеныя ў беларускі закон», — кажа Стэфановіч.

Праваабаронца падкрэслівае, што абавязак грамадзян плаціць за правядзенне масавых мерапрыемстваў (міліцыі, хуткай дапамозе, «Зелянбуду») супярэчыць міжнародным стандартам правядзення мірных сходаў. Аплата выдаткаў павінна ўскладацца не на арганізатараў, а на дзяржаву. Гэта яе абавязак: стварыць умовы для рэалізацыі грамадзянамі сваіх канстытуцыйных правоў на свабоду мірных сходаў і на выказванне свайго меркавання.

Беларускія праваабаронцы даўно крытыкуюць закон «Аб масавых мерапрыемствах» за яго неадпаведнасць міжнародным стандартам. Аднак максімум, на што можа пайсці цяперашняя ўлада, — гэта касметычныя змены, накшталт тых, што і былі прынятыя напачатку года.

«Існуюць рэкамендацыі Камітэта па правах чалавека ААН, якія ён вынес беларускаму ўраду па паляпшэнні заканадаўства аб мірных сходах. Там дакладна прапісана, што і як рабіць. Але ў нашых уладаў адсутнічае палітычная воля для грунтоўных зменаў у заканадаўства. Зменаў вельмі мала, а тыя, што ёсць, якасна не мяняюць сітуацыю. Змены ў закон «Аб масавых мерапрыемствах» — яскравы таму прыклад. Улады баяцца дазволіць «лішняга», бо гэта, паводле іх меркавання, можа прывесці да пэўнай дэстабілізацыі ў краіне», — канстатуе Стэфановіч.

Прэтэнзіі застаюцца, і праваабаронцы далей будуць казаць пра недасканаласць беларускага закона «Аб масавых мерапрыемствах» на міжнародных пляцоўках. Прэрагатыва зменаў у закон па-ранейшаму належыць уладам, а значыць, у грамадзянскай супольнасці наперадзе яшчэ шмат працы, каб паўплываць на яе будучыя рашэнні ў гэтай галіне.

# Як абараніць свае экалагічныя правы ва ўмовах беларускіх рэалій?

Дзіяна ПІНЧУК

**Міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне вырашэння экалагічных праблем умацоўваецца і расце з кожным годам, аднак у Беларусі не перастае з'яўляцца інфармацыя пра парушэнні экалагічных правоў: права на чыстае і здаровае навакольнае асяроддзе, права на доступ да экалагічнай інфармацыі, права грамадскасці на ўдзел у працэсе прыняцця экалагічна значных рашэнняў.**

Да сумнавядомых у экалагічным плане Брэста, Светлагорска, Наваполацка дадаюцца ўсё новыя і новыя гарады. Як правіла, гэта звязана з пабудовай буйных прамысловых карпарацый, якія замест прынцыпу экалагічнай накіраванасці абіраюць дасягненне матэрыяльных каштоўнасцяў любымі спосабамі. Часам людзям не хапае ведаў і смеласці ў змаганні з дзяржавай і прадпрыемствамі. Нават нягледзячы на тое, што экалагічныя правы гарантаваныя Канстытуцыяй і міжнароднымі актамі па правах чалавека.

Праблема таксама палягае ў адсутнасці сфарміраванага механізму абароны экалагічных правоў. Вядома, што іх можна абараняць праз стварэнне грамадскіх арганізацый, звароты ў дзяржаўныя органы і суды, пікетаванне, ініцыяванне экалагічных экспертызаў. Але, калі спусціцца з тэорыі на беларускую зямлю, то ўбачым: на практыцы такімі сродкамі скарыстацца вельмі цяжка, а часам — амаль немагчыма. У Брэсце ўжо амаль паўтара года працягваюцца рэпрэсіі супраць актывістаў, якія змагаюцца за чыстае навакольнае асяроддзе, там жа адмаўляюць у рэгістрацыі экалагічнага праваабарончага грамадскага аб'яднання. У Светлагорску любую актыўнасць расцэньваюць як масавае мерапрыемства, а жыхарам адмаўляюцца прадстаўляць інфармацыю пра працу завода беленай цэлюлозы.

Мы распыталі экаактывістаў, якія займаюцца абаронай экалагічных правоў у самых «гарачых» кропках Беларусі, што рабіць, калі твае экалагічныя правы парушаюцца, ці можна назваць пратэсты самым эфектыўным сродкам абароны экалагічных правоў і чаму важна абараняць свае экалагічныя правы, нават калі ты ў Беларусі.



Фота Радыё Свабода

## МАГІЛЁЎ: «Трэба выкарыстаць усе магчымасці ўзаемадзеяння з уладамі»

У Магілёве з 2014 года будуецца расійскае прадпрыемства «Омск Карбон Магілёў». Мясцовыя жыхары і актывісты лічаць вытворчасць прадпрыемства шкоднай. Асноўная барацьба супраць «Омск Карбона» пачалася каля трох гадоў таму, але рэальна людзі запанікавалі, калі ў ноч на 18 лістапада 2018 года наваколле завода накрыла «сажай»...

У горадзе дзейнічае ініцыятыва «За здаровы Магілёў», якую каардынуе Андрэй Бодзілеў. Экаактывіст распавядае, што асноўным сродкам абароны экалагічных правоў у Магілёве выступае канструктыўнае ўзаемадзеянне з органамі ўлады. У актывістаў ёсць дакументы, што сведчаць: праект будаўніцтва завода не адпавядае нормам экалагічнай бяспекі, у ім мноства недакладнасцяў і памылак. Гэта дае актывістам рэальныя падставы звяртацца па тлумачэнні і з канкрэтнымі прапановамі па паляпшэнні экалагічнай бяспекі ў горадзе. Напрыклад, з дапамогай грамадскай экалагічнай экспертызы яны дамагліся адмовы заводу ў павелічэнні магутнасці вытворчасці.

«Многія пытаюцца: чаму магілёўцы не пайшлі па шляху берасцейцаў і не выходзяць пратэставаць на вуліцы горада? Шмат хто лічыць, што магілёўцы не такія свабодалюбныя, як палешукі. Але трэба разумець, што ў Брэсце масавую незадаволенасць і пратэсты выклікалі менавіта рэпрэсіі ўладаў. У Магілёве іншая сітуацыя: актывісты ў першую чаргу хочуць вычарпаць усе рэсурсы ў перамовах з уладамі. Час "Х" настане тады, калі нам адкажуць адмовай на ўсе нашы прапановы. Трэба выкарыстаць усе магчымасці ўзаемадзеяння з уладай. Калі варыянтаў не застанецца — тады ўжо і на вуліцы Магілёва выйдуць людзі, абараняючы сваё здароўе», — распавядае Андрэй Бодзілеў.

Па словах каардынатара «За здаровы Магілёў», кіраўніцтва «Омск Карбона», у сваю чаргу, не спяшаецца ісці насустрач грамадскасці. «Яны вырашылі "дыскрэдытаваць" у вачах грамадства ініцыятыву "За здаровы Магілёў", жыхароў, якія бачылі сажу ў лістападзе 2018 года», — распавядае Андрэй Бодзілеў. Нядаўна з'явіўся артыкул, у якім сцвярджаецца, што «невядомыя групы фінансуюць грамадзянскую пазіцыю» экаактывіста. На думку Бодзілева, аўтарам артыкула з'яўляецца кіраўніцтва заводу «Омск Карбон Магілёў». Ён ужо накіраваў у абласную пракуратуру і міліцыю заяву з патрабаваннем прыцягнуць да крымінальнай адказнасці вінаватых за паклёп.

Актывісты кампаніі, апроч іншага, намагаюцца пасадзейнічаць стварэнню грамадскай экалагічнай камісіі пры Мінпрыроды ці Магілёўскім камітэце прыродных рэсурсаў.

«Такія камісіі дзейнічаюць, напрыклад, пры Міністэрстве культуры і Міністэрстве юстыцыі. Дык чаму б не стварыць і пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў? Тым больш што на сёння гэтая камісія жыццёва неабходная. Гэты шлях дазволіў бы стварыць грамадскі механізм, які супрацьдзейнічаў бы карупцыйнаму складніку ў будаўніцтве новых вытворчасцей. Гэты шлях дазволіць актывізаваць запалоханае рэпрэсіямі насельніцтва», — кажа экаактывіст.

На думку Андрэя Бодзілева, усе сродкі барацьбы за экалагічныя правы эфектыўныя: запыты, экспертызы, прыцягненне грамадскасці, выхад на вуліцу. А яшчэ лепш, калі гэтыя дзеянні дапаўняюць адно аднаго: «Эфектыўныя любыя дзеянні, якія выкарыстоўваюць людзі, што не жадаюць моўчкі дыхаць атрутай вытворчасцяў ці глядзець на сажу, якая падае на іх галаву замест снегу».

## НАВАПОЛАЦК. Петыцыя як асноўны інструмент у абароне экалагічных правоў

Наваполацк з'яўляецца лідарам сярод усіх беларускіх гарадоў па колькасці выкідаў у паветра шкодных рэчываў прамысловымі прадпрыемствамі: іх штогод выкідаецца каля 60 тысяч тон. Але сёлета Наваполацк адзначыўся рэдкай для Беларусі перамогай у абароне права на чыстае навакольнае асяроддзе. Планыемая Міністэрствам энергетыкі пабудова катла па спальванні нафтавага коксу на Наваполацкай ЦЭЦ адменена. Агульныя выдаткі рэалізацыі праекту маглі скласці больш за 1 мільярд долараў. Але экалагічныя наступствы меркаванага будаўніцтва маглі быць сапраўды катастрафічнымі. Дзякуючы дзейнасці экаактывістаў і актыўнасці мясцовых жыхароў, гэтага ўдалося пазбегнуць.

Зміцер Салаўёў, каардынатар кампаніі «За чыстае паветра ў Наваполацку» і праваабаронца «Вясны», адзначае, што ў кожным рэгіёне дзейнічае свой набор інструментаў абароны экалагічных правоў у залежнасці ад сітуацыі.

«У рэгіёнах, дзе экалагічная сітуацыя ад даўняга часу "стабільна цяжкая", дзейнічаюць іншыя заканамернасці. Напрыклад, у Наваполацку, гарадзелідары ў Беларусі па выкідах у паветра шкодных рэчываў прамысловымі прадпрыемствамі, вулічных пратэстаў з нагоды экалагічнага становішча няма ужо больш за два дзесяцігоддзі.

Але ўвесну, калі стала вядома, што Міністэрства энергетыкі збіраецца пабудаваць кацёл па спальванні нафтавага коксу, жыхары ўсяго раёна змаглі хутка кансалідавацца. Пад першай петыцыяй "Прадухілім экалагічную катастрофу ў Наваполацку" на Petitions.by падпісалася амаль 1800 чалавек. Улады спужаліся магчымых пратэстаў і спачатку прыпынілі працэдуру грамадскага абмеркавання "з-за памылак у дакументацыі". Пасля паўторнай петыцыі ўвогуле адмовіліся ад ідэі будавання катла», — распавядае праваабаронца.

Зміцер Салаўёў адзначае, што пры гэтым пратэсты сапраўды могуць выступаць добрым сродкам абароны экалагічных правоў. Праваабаронца ўзгадвае, што з дапамогай мірных сходаў на пачатку 1990-х навапалачане змаглі дамагчыся паляпшэння якасці пітной вады. Дзякуючы актыўнай пазіцыі мясцовых жыхароў былў зроблены артэзіянскі водазабор, а ў далейшым — і ачышчальныя збудаванні.

«Апошнім часам інфармацыя пра пратэсты, звязаныя з экалагічнымі праблемамі рэгіянальных гарадоў, з'яўляецца штотыдзень. Людзі выходзяць на вуліцу бараніць права на чыстае навакольнае асяроддзе, калі экалагічная сітуацыя рэзка пагаршаецца ці пагражае пагоршыцца.

Пратэсты будуць актыўна выкарыстоўвацца, калі дзяржава будзе парушаць правы сваіх грамадзян. Гэта звязана з новымі рэаліямі жыцця — з'яўленнем інтэрнэту. Людзі павышаюць сваю экалагічную правасвядомасць, атрымліваюць інфармацыю аб небяспецы для здароўя забруджвання навакολля, а таксама бачаць і натхняюцца паспяховымі прыкладамі дзейнасці экалагічных актывістаў па ўсім свеце. Гэта ўсё спрыяе мабілізацыі жыхароў у крытычных сітуацыях да актыўных дзеянняў», — адзначае Зміцер Салаўёў.




**Да сумнавядомых у экалагічным плане Брэста, Светлагорска, Наваполацка дадаюцца ўсё новыя гарады. Як правіла, гэта звязана з пабудовай буйных прамысловых карпарацый, якія абіраюць за мэту дасягненне матэрыяльных каштоўнасцяў любымі спосабамі**


Фота «Радыё Свабода»


Фота «Віртуальны Брэст»



**Нядзельнае «кармленне галубоў» у Брэсце.** Фота Рамана Кісляка

# Брэсцкі феномен

## Як будаўніцтва завода АКБ узрушыла і згуртавала людзей

Сяржук СЫС

**Паўтара года працягваецца супрацьстаянне жыхароў Брэстчыны з мясцовымі ўладамі і кіраўніцтвам завода акумулятарных батарэй кампаніі «АйПаўэр», пабудаваным у свабоднай эканамічнай зоне «Брэст». Грамадзяне бароняць свае права на чыстае навакольнае асяроддзе і не вераць абяцанкам у бяспечную вытворчасць свінцовых акумулятараў.**

### Выбухнула ў лютым 2018 года

Каталізатарам пратэстных акцый паслужыла пракурорскае папярэджанне, вынесенае 22 лютага 2018 года відэаблогерам Сяргею Пятрухіну і Аляксандру Кабанаву, якія заклікалі берасцейцаў выйсці на гарадскую плошчу і выказаць пратэст супраць шкоднай вытворчасці, размешчанай у непасрэднай блізкасці ад абласнога цэнтра.

Перад гэтым неабыякавыя жыхары Брэста па сваёй ініцыятыве сабралі больш за 37 тысяч подпісаў пад зваротам з прапановай правесці шырокае грамадскае абмеркаванне будаўніцтва завода АКБ. Подпісы былі накіраваныя ў Адміністрацыю прэзідэнта, аднак фактычна да гэтага звароту паставіліся фармальна: створаная камісія не знайшла аніякіх парушэнняў пры будаўніцтве завода.

Неўзабаве Пятрухіна з Кабанавым затрымалі і пакаралі за заклікі да ўдзелу ў масавым мерапрыемстве вялікімі штрафамі.

Ад таго часу кожную нядзелю на цэнтральнай плошчы Брэста збіраюцца сотні людзей, каб абмеркаваць сітуацыю наконт дзейнасці завода і выказаць пратэст супраць ягонага пуску.

Зразумела, што ўладам не даспадобы такая грамадская актыўнасць — супрацоўнікі органаў унутраных спраў паспрабавалі напачатку пагасіць яе масавымі затрыманнямі і штрафамі. Праваабаронцам вядома, што ад адміністрацыйнага праследу пацярпелі каля 50 чалавек, многія з якіх неаднойчы затрымліваліся да суда, былі арыштаваныя альбо атрымалі штрафы. Агульная сума штрафаў, заплачаная актывістамі, набліжаецца да 60 тысяч рублёў.

Паралельна ўлады вышуквалі розныя варыянты, каб дыскрэдытаваць найбольш актыўных пратэстоўцаў — некаторым з іх пагражалі, абяцалі стварыць праблемы на працы, у сям'і, абвінавачвалі нават у дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь.

Яшчэ адна петыцыя, да якой далучылі дзве з паловай тысячы подпісаў жыхароў горада, была накіраваная ў Адміністрацыю прэзідэнта напрыканцы траўня 2018 года. Актывісты запатрабавалі адправіць у адстаўку кіраўніцтва Брэста за ігнараванне інтарэсаў грамадзян і бяздзейнасць у дачыненні да будаўніцтва шкоднай вытворчасці.

Сёння шмат хто ведае імёны найбольш актыўных экалагічных пратэстоўцаў — Дзмітрыя Бекалюка, Аляксандра Абляка, Таццяну Фесікаву, Дзяніса Мазько, Віталя Казака і Уладзіміра Мароза. Не засталіся ўбаку і мясцовыя праваабаронцы — Уладзімір Вялічкін і Раман Кісляк, якія маніторылі мітынгі і судовыя пасяджэнні, аказвалі дапамогу ў складанні скаргаў на рашэнні судоў.

# Светлагорск: улады і людзі

## Вертыкаль жыве згодна з прынцыпам, што ўсялякая ініцыятыва павінна быць пакараная

Вадзім БОЛЬБАС,
Алена МАСЛЮКОВА

**У загалоўку артыкула на першае месца слова «ўлады» пастаўлена свядома, паводле прынцыпу дамінавання. Абгрунтаванне гэтаму можна бачыць на прыкладзе Светлагорска.**


**Флэшмоб у Светлагорску.** Фота «Радыё Свабода»

Было б банальным сцвярджаць, што ўлады імкнуцца дамінаваць над людзьмі. Так ва ўсім свеце. Але ў краінах з хоць крыху развітай дэмакратыяй улады размаўляюць, раяцца з грамадзянамі па важнейшых аспектах жыцця. На жаль, у нас не так. Прыклад гэтаму — Светлагорск, дзе ў і без таго перагружаным хімічнай прамысловасцю горадзе і раёне па рашэнні ўладаў пабудавалі яшчэ адно прадпрыемства — завод беленай цэлюлозы, ЗБЦ.

Звыклая яшчэ з савецкіх часоў да маўклівага падпарадкавання люду, мясцовая вертыкаль у студзені 2012 года правяла сход па абмеркаванні гэтага будаўніцтва. І памылілася! Людзі, што вольна прыйшлі на сход, не пагадзіліся з такім рашэннем. Ніхто з выступоўцаў, акрамя кіраўніцтва СЦКК, прадстаўнікоў галіновай навукі і маленькай купкі чыноўнікаў, не падтрымаў прапанову будаваць ЗБЦ. Найбольш кампетэнтныя і актыўныя ўдзельнікі сходу выступалі па два-тры разы, пісьменна тлумачылі ўсю магчымую шкоду ад будучага ЗБЦ пасля яго пуску — і для экалогіі, і для насельніцтва рэгіёна.

Тут жа была створаная ініцыятыўная група па супрацьдзеянні ўсімі законнымі метадамі і сродкамі будаўніцтву ЗБЦ. У групу ўвайшлі найбольш кампетэнтныя і актыўныя жыхары Светлагорска і вёскі Якімава Слабада, бо ЗБЦ планавалася будаваць літаральна побач з дамамі слабодцаў.

Але вертыкаль пайшла на падман (а калі казаць прама — на падлог). Праведзены сход абвясцілі «нерэлевантным», паколькі не вёўся пратакол.

Ініцыятыўная група сабрала больш за 10 тысяч (10191) подпісаў грамадзян горада і раёна супраць плануемага будаўніцтва. На подпісы людзей ні Адміністрацыя прэзідэнта, ні Савет міністраў, ні амбасада КНР не звярнулі ўвагі. Гэта яскравы прыклад стаўлення ўладаў да думкі грамадзян, бо кіраўніцтва лічаць тых не грамадзянамі, а падуладным насельніцтвам!

Мясцовыя чыноўнікі сабралі другі сход — залу запоўнілі прадстаўнікамі «ідэалагічнай вертыкалі», лаяльнымі кіраўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстановаў. Слова для «хваласпеваў» будучаму заводу давалася толькі кіраўнікам.

Таму і атрымалася тое, што сёння маецца ў рэгіёне: завод кітайцы «пабудавалі» такім, што здаць яго «пад ключ» не змаглі. Беларускія спецыялісты ні запусціць, ні наладзіць яго не ў стане. ЗБЦ нібыта працуе — смуродзіць штодня. Шкодныя выкіды метантыёлу і іншай сераарганікі не вымяраюцца па прычыне таго, што выкіды гэтых рэчываў не былі прадугледжаныя праектам, а кіраўніцтва ЗБЦ і канцэрна «Беллеспапераппрам» сцвярджае, што завод добры, і ніякага смуроду няма.

Усе — і хімікі, і папяровікі — ведаюць, што пры тэхналогіі, прынятай на ЗБЦ, меркаптаны ўтвараюцца абавязкова. Аднак ні канцэрн, ні кіраўніцтва завода, ні галіновая навука да гэтага не былі гатовыя. Сямі гадоў не хапіла ім для арганізацыі неабходных вымярэнняў. Да таго ж, у 2013 годзе была ліквідаваная лабараторыя аналітычнага кантролю пры Светлагорскай раённай экалагічнай інспекцыі. Светлагорцы перакананыя, што гэта зроблена знарок, каб людзі не ведалі, чым ім даводзіцца дыхаць. Арганізацыя вымярэнняў наўмысна зацягваецца, каб схаваць праўду пра тое, чым дыхаюць жыхары. Ці гэта не яскравы прыклад стаўлення і адносін да сваіх падуладных?

Людзі, што сістэматычна атручваюцца выкідамі з ЗБЦ, пачалі бараніць свае права на чыстае паветра. Першыя масавыя пратэсты адбыліся ў вёсцы Якімава Слабада, калі з лістапада 2017 года наваколле пачаў накрываць невыносны смурод меркаптанаў. Светлагорскія экаактывісты пісалі скаргі ва ўсе інстанцыі, каб прыцягнуць увагу чыноўнікаў да вырашэння праблемы. Але ж адказы былі падобныя на адпіскі. Завод надзейна ахоўвае ўлада.

Сябры ініцыятыўнай групы з канца жніўня мінулага года пачалі падаваць заявы ў мясцовы райвыканкам, каб атрымаць дазвол на правядзенне мірных сходаў і мітынгаў. Аднак з дзесяці пададзеных заяваў ніводная не была задаволеная!

Калі сітуацыя стала крытычнай, людзі ў верасні 2018 года выйшлі на цэнтральную плошчу і правялі флэшмоб

### Ад «кармлення галубоў» да «Свінцовай варты»

Бездапаможнасць і абыякавасць чыноўнікаў нарэшце саступіла хоць нейкім дзеянням з боку ўлады: ініцыятыўную групу супраць будаўніцтва акумулятарнага заводу некалькі разоў запрашалі на сустрэчу з прадстаўнікамі аблвыканкаму. Аднак вынікі такіх перамоваў пакуль несуцяшальныя і, на думку аднаго з лідараў пратэставага руху Дзмітрыя Бекалюка, не сведчаць пра тое, што ўлады маюць волю і жаданне прыняць рашэнне аб поўным закрыцці завода. Адзіным пазітыўным момантам стала хіба што часовае прыпыненне дзейнасці завода па распараджэнні старшыні Брэсцкага аблвыканкама Арсеня Ліса ад 14 чэрвеня. Дый гэтае рашэнне стала магчымым толькі пасля таго, як актывісты выявілі прыхаваную дзейнасць прадпрыемства, з тэрыторыі якога цішком вывозілі прадукцыю. Менавіта па гэтай прычыне да акцый пратэстаў у самім Брэсце, што атрымала назву «кармленне галубоў», дадалася і «Свінцовая варта» непасрэдна каля тэрыторыі прадпрыемства.

«“Свінцовая варта” — прыклад самаарганізаванасці берасцейцаў і жыхароў раёна. Я ганаруся, што жыву ў горадзе, дзе так шмат разумных і валявых людзей. Ніхто імі не кіраваў: людзі ўбачылі небяспеку на заводзе і прынялі рашэнне ўсё фіксаваць», — распавёў журналісту «Брэсцкай газеты» Дзмітрый Бекалюк.

Спачатку гэта былі нерэгулярныя наведванні тэрыторыі завода, які пачаў пусканаладачныя працэсы, спыненне аўтамабіляў з акумулятарамі і выклікі супрацоўнікаў міліцыі на інцыдэнты. А потым было арганізавана кругласутачнае дзяжурства, у якім удзельнічалі ў розныя часы па некалькі дзясяткаў чалавек, што па загадзя складзеным графіку выходзілі на 2-гадзінныя дзяжурствы і фіксавалі ўсё, што адбываецца на заводзе.

### Ці зможа ініцыятыўная група зарэгістраваць «ЭкаБрэст»?

Тым часам актывісты не спяць у шапку і прымаюць захады па стварэнні грамадскага экалагічнага аб’яднання, каб узмацніць свае пазіцыі і адстойваць правы на чыстае навакольнае асяроддзе на больш шырокім і прадстаўнічым узроўні. У траўні быў праведзены сход ініцыятыўнай групы, пасля чаго пададзеныя дакументы ў абласное ўпраўленне юстыцыі на рэгістрацыю Брэсцкага абласнога экалагічнага праваабарончага грамадскага аб’яднання «ЭкаБрэст».

Аднак затым аднаму з ініцыятараў стварэння аб’яднання Раману Кісляку чыноўнікі паведамілі, што шанцаў на рэгістрацыю мала. Так яно і адбылося: быў атрыманы адказ з адмовай у рэгістрацыі і аргументацыяй такога рашэння на сямі старонках. Зараз рашэнне ўпраўлення юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама актывісты спрабуюць абскардзіць у судзе. На іх думку, парушэнні ў статутных дакументах неістотныя, і яны могуць быць лёгка выпраўленыя.

«Мы падалі ў абласны суд скаргу на адмову ў рэгістрацыі грамадскага аб’яднання “ЭкаБрэст”. Бо мяркуем, што нам адмовілі неабгрунтавана, выстаўляюць завышаныя патрабаванні. Уся аргументацыя адмовы пабудаваная на тым, што мы не паказалі патрэбны закон з патрэбным пунктам, ці іншы закон у іншым пункце. Фактычна, усе такія парушэнні ці стылістычныя або граматычныя памылкі», — кажа адзін з прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы, юрыст і праваабаронца Раман Кісляк.

У любым выпадку, нават калі суд не прыслухаецца да аргументаў актывістаў, існуе магчымасць падаць неабходныя дакументы на рэгістрацыю паўторна.

**Уладам не даспадобы такая грамадская актыўнасць — супрацоўнікі органаў унутраных спраў паспрабавалі напачатку пагасіць яе масавымі затрыманнямі і штрафамі. Ад адміністрацыйнага пераследу пацярпелі каля 50 чалавек, агульная сума штрафаў, заплачаная актывістамі, набліжаецца да 60 тысяч рублёў**



**Праваабаронца Раман Кісляк сустракае Віталя Казака з ізалятара часовага ўтрымання.** Фота ПЦ «Вясна»

### Трэцяя экалагічная экспертыза завода і перспектывы

Намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандр Корбут на прэс-канферэнцыі 27 жніўня паведаміў журналістам, што завод АКБ «мае станоўчыя вынікі экалагічнай экспертызы. Прадугледжана, што прадпрыемства будзе перапрацоўваць 13 156 тон свінцу на год, пры гэтым выкіды складуць не больш за 3,05 кг. Калі ў завода атрымаецца выканаць дадзеныя абавязацельствы, то ў яго будзе магчымасць запусціцца і працаваць. Калі будуць нейкія парушэнні, якія не дазволяць выканаць экалагічныя абавязацельствы, то Мінпрыроды не дазволіць увод у эксплуатацыю. У гэтым выпадку завод павінен будзе зноў правесці грамадскае абмеркаванне і падаць заяўку на змяненне праектнай дакументацыі».

Зразумела, вынікі экалагічнай экспертызы з’яўляюцца толькі пэўнымі намерамі ўкладацы ў вузкія рамкі дапушчальных выкідаў свінцу, сітуацыя можа развівацца і па горшым сцэнары, таму, у любым разе, экалагічныя актывісты не спыняць сваёй дзейнасці. Імпэту і рашучасці ў іх хапае. Бо калі ўлады горада абыякавыя да праблем, якія можа стварыць акумулятарны завод, ім на дапамогу абавязкова прыйдуць актывісты. А лічыцца з імі давядзецца.



**Шкодныя выкіды метантыёлу і іншай сераарганікі не вымяраюцца, бо выкіды гэтых рэчываў не былі прадугледжаныя праектам!**

супраць шкодных выкідаў з ЗБЦ. Такім чынам яны хацелі прыцягнуць увагу да праблемы і рэалізаваць свае права на жыццё ў спрыяльным навакольным асяроддзі, свае права на мірныя сходы. Улады адказалі на такое «свавольства падуладных» сфабрыкаванымі справамі супраць грамадскіх актывістаў і адміністрацыйнымі штрафамі. Светлагорскі суд, што штрафаваў актывістаў, нават не палічыў неабходным даставіць на пасяджэнне сведкаў абвінавачвання (супрацоўнікаў міліцыі і райвыканкама).

Не пагадзіліся светлагорскія актывісты і з беспадстаўнай забаронай правядзення мітынгаў. Усе дзесяць рашэнняў аб забароне былі абскарджаныя ў раённым, абласным і Вярхоўным судах. Неаднаразова падаваліся прапановы ў Светлагорскі раённы і Гомельскі абласны выканкамы па пашырэнні месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў, бо ў Светлагорску такое месца толькі адно — і тое на стадыёне «Папяровік». Пасля таго, як не атрымалася адстаяць свае права на мірныя сходы ў беларускай судовай сістэме, актывісты звярнуліся па абарону сваіх правоў, гарантаваных міжнародным правам і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, у Камітэт па правах чалавека ААН.

Прадстаўнікі грамадскасці працягваюць звяртацца ў кантралюючыя органы са скаргамі і патрабаваннямі кардынальнага вырашэння праблемы шкодных выкідаў з ЗБЦ, ездзяць на асабістыя прыёмы да чыноўнікаў абласных кантралюючых органаў, Мінпрыроды і Мінздароўя, падаюць іскі ў суд, выходзяць на цэнтральную плошчу кожную нядзелю, каб выказаць сваю нязгоду з пераўтварэннем Беларусі ў экалагічныя могілкі, прадэманстраваць салідарнасць з тымі, хто таксама адстойвае свае грамадзянскія і палітычныя правы.

Схільныя да разважлівасці грамадскія актывісты ламаюць галовы над тым, чым тлумачыцца такое паталагічнае нежаданне ўладаў усіх узроўняў размаўляць і раіцца з грамадзянамі па жыццёва важных для людзей пытаннях. Чаму ўсімі магчымымі і немагчымымі спосабамі ўлады імкнуцца ператварыць народ у безаблічную, бяздумную масу — насельніцтва?

Патлумачыць гэта можна толькі адным: феадальнай структурай уладнай вертыкалі. Кожны вертыкальшчык панічна баіцца праявіць ініцыятыву і самастойнасць. Як бы гэта не выклікала незадаволенасць больш высокага начальніка. Вертыкаль жыве паводле прынцыпу, што ўсялякая ініцыятыва павінна быць пакараная. Можа таму ўлады і не вырашаюць кардынальна экалагічныя праблемы ў Светлагорску, Брэсце, Наваполацку, Магілёве, Астраўцы — і наогул, паўсюдна, дзе такія сітуацыі ўзнікаюць з-за іх жа некампетэнтнасці.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Клімат супраць адукацыі

Прыкладна з мінулай восені школьнікі заходніх краін праводзяць «Fridays for Future» («Пятніцы за будучыню»). Сэнс акцыі палягае ў тым, каб па пятніцах не вучыцца, а выходзіць на маніфестацыі ў абарону клімату. Дзякуючы падтрымцы СМІ «Fridays for Future» сталі прыкметнай з'явай: на сёння школьныя кліматычныя акцыі зарэгістраваныя ў 270 гарадах ЕС, ЗША, Канады і Аўстраліі. Настаўнікі неаднаразова казалі пра тое, што «Fridays for Future» парушаюць навучальныя планы, аднак чыноўнікі ад Мінадукацыі баяліся выглядаць кансерватарамі. Акрамя таго, адзін з прынцыпаў адукацыі на Захадзе — заахвочванне вучняў да ўдзелу ў грамадскіх працэсах. І вось упершыню табу парушанае. Дэпартамент адукацыі нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія афіцыйна заявіў пра ўвядзенне пакарання для ўдзельнікаў кліматычных пратэстаў. Таксама кіраўнік дэпартамента патрабуе, каб акцыі ў абарону клімату не праходзілі часта. Як і варта было чакаць, актывісты заявілі, што ўсведамляюць магчымасць рэпрэсій, аднак усё роўна абяцаюць працягваць бунты ў пятніцу.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЗША. Мандат для індзейцаў

Злучаным Штатам пагражае канстытуцыйны крызіс праз індзейцаў племені чырокі. Чырокі, якіх у ЗША каля 400 тысяч, днямі пераабралі сваіх правадыроў. А тыя нечакана ўзгадалі змест дамовы 1835 года з Вашынгтонам. У тым ліку тагачасная адміністрацыя ў Белым доме абяцала сталае прадстаўніцтва ў Кангрэсе ЗША. А паколькі тая дамова, паводле тэксту, не мае часавых абмежаванняў, чырокі вырашылі скарыстацца сваім правам і ўжо абралі кангрэсмена. Ім стаў Чак Хокінс-малодшы, які раней працаваў у каманде Абамы. Пакуль у Кангрэсе не ведаюць, што рабіць з тым індзейцам, бо, сапраўды, дамова 1835 года надае чырокі права мець кангрэсмена. З іншага боку, гісторыя можа стаць прэцэдэнтам, калі індзейцы пачнуць патрабаваць ад Вашынгтона выконваць свае абяцанні. Пакуль прапануецца шукаць кампраміс, паводле якога Хокінса дапусцяць да ўдзелу ў працы парламенцкіх камітэтаў без права голасу.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Вяртанне Какандскага ханства

Напярэдадні адкрыцця палітычнага сезона ў Кыргызстане паўстае ўсё больш чутак пра магчымае адраджэнне нейкага варыянту Какандскага ханства — дзяржавы са сталіцай Каканд, што існавала на тэрыторыі сучаснага Узбекістана, Таджыкістана, Кыргызстана і паўднёвага Казахстана. Ханства праіснавала да 1876 года, калі яго тэрыторыя была гвалтоўна ўключаная ў склад Туркестанскага генерал-губернатарства Расійскай імперыі. І вось сёння ў грамадстве зноў паўстала вялікая цікавасць да Каканду, якая выкліканая канфігурацыяй мясцовай палітычнай эліты. Асноўныя супярэчнасці праходзяць па лініі супрацьстаяння паўночнага і паўднёвага кланаў, што ўзнікла вельмі даўно. Прычым, калі паўночны клан ахвотна ішоў на супрацоўніцтва з каланізатарамі, то эліта паўднёвых плямёнаў была ў высокай ступені афіляваная ў какандскае кіраўніцтва і лічылася не зусім лаяльнай. З часам на гэтай глебе паўстала хімера пра Каканд як дзяржаву паўднёвых кыргызаў. Зараз, калі паўночны клан захапіў уладу ў сталіцы, на какандскі міф паўстаў новы попыт. На думку палітолагаў, заклікаў аднавіць ханства засталося чакаць нядоўга. У краіне нестабільная эканоміка, а рэгіянальнае і родаплемяннае дзяленне будзе, магчыма, і не адзіным, але найважнейшым крытэрам палітычнай самаідэнтыфікацыі ва ўмовах крызісу.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### РАСІЯ. Святкаваць пераход Суворава

Дзяржсавет Татарстана адправіў у Дзярждуму РФ вета на праект святкавання Дня заканчэння Вялікага стаяння на рацэ Угры (1480 год). Тая падзея лічыцца афіцыйнай датай заканчэння татара-мангольскага панавання на Русі. Нагадаем, гэта ідэя ўзнікла ў кіраўніцтва Калужскай вобласці, лабісты дамагліся таго, што праект адпаведнай пастановы быў вынесены на разгляд Дзярждумы. Зрэшты, у Казані прапануюць калужцам і іншым фанатам Угры кампенсацыю ў выглядзе свята з нагоды гадавіны пераходу Суворава праз Альпы (1799 год). На думку татарскіх чыноўнікаў, той паход «дэманструе бліскучую перамогу рускай зброі». Прапанова здзівіла шмат каго, паколькі ў такім выпадку відавочна спатрэбіцца нейкія святочныя мерапрыемствы і ў Швейцарыі. Аднак самае цікавае было яшчэ наперадзе. На думку гісторыкаў, у Суворава са Швейцарыяй выйшла хутчэй няўдача. Руская армія, што перайшла праз Альпы, апынулася ў даліне ў атачэнні французаў, адкуль давялося хутка сыходзіць. Як бачым, падстаў для святкавання няшмат, а вось казаць пра неадукаванасць казанскіх чыноўнікаў можна смела.

**Паводле расійскай прэсы**

# На заходнім фронце без пераменаў

Алег НОВІКАЎ

**80 гадоў таму пачалася не толькі Другая сусветная, аднак і так званая «фальшывая вайна». Яна ж — «дзіўная вайна», «сядзячая вайна», «вайна па тэлефоне», «тэатральная вайна», «акцёрская вайна» і гэтак далей.**




**28 лістапада 1939 года. Салдаты брытанскага экспедыцыйнага корпуса і французскіх ВПС на лініі фронту. Жартоўны надпіс над бліндажом «10 Downing Street» — адрас рэзідэнцыі брытанскага прэм'ер-міністра**

Напачатку верасня 1939-га польская прэса любіла цешыць аўдыторыю гісторыямі пра поспехі на фронце. Паводле тых паведамленняў, ужо праз тыдзень вайны польскія ўланы ледзь не штурмавалі прадмесці Берліну. Паведамлялася і пра наступ французаў углыб Рэйха, што, маўляў, выклікала ў нямецкім тыле шматлікія паўстанні супраць Гітлера. Сам фюрэр, дарэчы, калі верыць тым артыкулам, быў на парозе суіцыду.

На самай справе, уздоўж германа-французскага фронту пасля пачатку вайны панаваў амаль поўны штыль. Спробы французаў рухацца на немцаў сапраўды мелі месца, аднак гэта былі сутычкі лакальнага маштабу. Антыгітлераўскія саюзнікі, якія мелі больш за мільён жаўнераў, так і не рызыкнулі атакаваць колькасна меншую групоўку Вермахта.

Цікава, што спачатку французы рыхтаваліся да сур'ёзнага змагання. Згодна з інструкцыямі, у верасні пачалася эвакуацыя ўраду з Парыжу. Разам з чыноўнікамі і дэпутатамі вывозілі каштоўнасці, у тым ліку славутую «Мону Лізу». Адпаведна закону, эвакуацыі падлягаў і сталічны заапарк. Яшчэ раней накіраваліся ў тыл жыхары памежных з Германіяй рэгіёнаў, якія не забылі артылерыйскія абстрэлы часоў Першай сусветнай вайны. Сярод грамадскасці назіраўся патрыятычны кураж. Адна з парыжскіх операў вырашыла, што Мефістофель у «Фаўсце» будзе выглядаць як Сталін, якога шмат хто лічыў адказным за вайну. Усё сведчыла пра сур'ёзнасць сітуацыі.

Аднак праз адсутнасць навінаў з фронту жыццё нармалізавалася. Сатырычная прэса пачала жартаваць з афіцыйных інструкцый, якія патрабавалі ад людзей выходзіць з дому, маючы пры сабе газавую маску, запас ежы і вады і гэтак далей. І гэта быў яшчэ прыфрантавы Парыж — у правінцыі, напрыклад, у Ніцы, улады крамаў арганізавалі маніфестацыю, патрабуючы вярнуць начное асвятленне вуліц і сваіх ганДлёвых кропак. Так пачыналася тая самая «фальшывая вайна» — вайна пры адсутнасці баявых дзеянняў паміж бакамі.

Эрзацам сапраўднай вайны стала вайна інфармацыйная. 22 верасня Гебельс запусціў французскую службу на станцыі «Радыё Штутгарт». Праграмы, якія трансляваліся на Францыю, павінны былі данесці да слухача шэраг тэзісаў. У тым ліку асноўны — Англія вырашыла выкарыстаць французаў, якім лёс Польшчы наўрад ці вельмі цікавы, у якасці гарматнага мяса.

Трансляцыі са Штутгарта сталі папулярнымі, паколькі існавала глеба для пацыфісцкіх настрояў. Пасля катастрофы Польшчы першапачатковы стратэгічны план — перамагчы Германію за кошт вайны на два фронты — яўна страціў сэнс. Знікла матывацыя ваяваць. Некаторыя марылі пра хуткую мірную канферэнцыю. Чамусьці шмат хто верыў, што Гітлеру цяпер будзе не да Францыі праз нейкі ўнутраны канфлікт з прускімі генераламі.

Каб супрацьстаяць інфармацыйнай вайне, французскі ўрад пастанавіў стварыць асобную прапагандысцкую службу. Вайсковы дух французаў намагаліся ўтрымаць за кошт словаў пра місіянскі характар французскай нацыі, пра тое, што Польшча — не першая і, магчыма, не апошняя ахвяра Гітлера. Да патрыятычнай прапаганды падключылі каталіцкіх святароў, мясцовых літаратараў і нават народы ў калоніях. Іх правадыры ў рамках нейкага флэшмобу кляліся ў вернасці запаветам Французскай рэвалюцыі. Былі спробы паўплываць на стан грамадскай думкі праз прапагандысцкія кампаніі і судовыя працэсы супраць анархістаў і камуністаў, якія лічылі вайну імперыялістычнай і вымагалі міру.

**Як адзначаў Жан-Поль Сартр у лістападзе 1939-га ў сваім дзённіку: «Гэта самая невыносная вайна… яна забівае сваёй нудой». Найгорш тое адбівалася на псіхіцы жаўнераў**

Трэба прызнаць, што французскі афіцыёз часам казаў слушныя рэчы. Аднак на яго эфектыўнасць уплываў відавочны факт — існуючы ўрад не быў здольны ані весці вайну, ані дамагчыся міру. У выніку хутка соцыум ахапіла пачуццё безвыходнасці. Як адзначаў Жан-Поль Сартр у лістападзе 1939-га ў сваім дзённіку: «Гэта самая невыносная вайна… яна забівае сваёй нудой». Найгорш такая нявызначанасць адбівалася на псіхіцы жаўнераў, якія не разумелі, нашто іх адправілі ў казармы і калі ўсё гэта скончыцца.

У гэтым сэнсе савецка-фінская вайна ўзімку 1940-га стала для ўрада прэм'ера Даладзье сапраўдным падарункам. За кошт яе было вырашана кампенсаваць пасіўнасць французаў на нямецкім фронце. Уся французская прэса аднагалосна пераключылася на асвятленне падзеяў на карэльскім перашыйку. «Мы ўсе — фіны», — можна было прачытаць на вулічных плакатах. Парыж даў Хельсінкі салідную порцыю зброі, і нават вёў кансультацыі з Лонданам наконт бамбардзіровак Баку.

Грамадства ахапіла такая нянавісць да Сталіна, а фігура Гітлера яўна адышла на другі план. Як вынік — з'явіліся спекуляцыі пра магчымасць брытанска-германска-французскай кааліцыі супраць бальшавікоў, што, маўляў, дазваляла ўсім згаданым краінам выйсці з цяперашняга канфлікту не страціўшы твар.

Увесь гэты хайп скончыўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. У сакавіку Фінляндыя пагадзілася падпісаць дамову на ўмовах Сталіна. Французам давялося пераключацца на свае рэаліі, каб зразумець крызіс сітуацыі. Выйсці з парадыгмы «фальшывай вайны» ўрад не рызыкнуў, нават калі ў красавіку былі захопленыя Данія і Галандыя. Не дапамаглі яму новыя арышты камуністаў і перастаноўкі ў кабінеце. 9 траўня Даладзье абвясціў пра роспуск кабінету, 10 траўня Гітлер аддаў загад пра напад на Францыю, агонія якой цягнулася пару тыдняў.

Відавочна, што перыяд «фальшывай вайны» напоўніцу быў выкарыстаны нямецкім камандаваннем у якасці стратэгічнай паўзы: Германіі ўдалося паспяхова правесці польскую кампанію, захапіць Данію і Нарвегію, а таксама падрыхтавацца да атакі на Францыю. Што тычыцца Францыі, то краіна за кошт «фальшывай вайны» сустрэла наступ абсалютна дэмаралізаванай, па-сутнасці, не здольнай змагацца.




# Новая справа Васіля Стуса

Алег НОВІКАЎ

**На ўкраінскі палітычны расклад можа паўплываць анансаваны суд, у межах якога будзе рэканструяваны працэс 1980 года над самым вядомым украінскім дысідэнтам, паэтам Васілём Стусам.**

Васіль Стус, калі сыходзіў у карцар адной з уральскіх турэмных зонаў 4 верасня 1985 года, сказаў свайму сукамерніку, што абвяшчае галадоўку, якую будзе трымаць да канца. Назад у камеру ён не вярнуўся. Паэта, які пайшоў з жыцця ў 47 гадоў, спешна пахавалі ў суседняй вёсцы, і нават не пазначылі яго імя на таблічцы — абмежаваліся папросту лічбай. Амаль немагчыма было ўявіць, што праз чатыры гады парэшткі Стуса будуць перавезеныя ў Кіеў, дзе дзясяткі тысяч людзей праводзяць яго на элітных Байкавых могілкі ў статусе лепшага ўкраінскага паэта другой паловы XX стагоддзя.

Аднак на гэтым прыгоды Стуса не скончыліся. У незалежнай Украіне ён нечакана стаў фігурай, якая палярызавала грамадства. Для адной часткі ўкраінцаў ён быў чалавекам-іконай. У 1965-м, ва ўзросце 27 гадоў, будучы аспірантам і паспяховым паэтам, адкрыта выступіў супраць арыштаў у асяроддзі ўкраінскай інтэлігенцыі. З аспірантуры яго за гэта адразу выключылі, а вершы давялося пісаць у час, вольны ад працы ці качагарам, ці рабочым, ці фармоўшчыкам у ліцейным цэху.

Аднак пазбегнуць арышту і першага тэрміну «за распаўсюд дакументаў, якія ганяць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад», не атрымалася. Васіль Стус вярнуўся з турмы ў Кіеў у 1979-м, але праз паўгода быў зноў арыштаваны і атрымаў 10 гадоў лагераў узмоцненага рэжыму. Адбываць пакаранне яго адправілі ў тую самую зону на Урал.

А вось у Данбасе на Стуса глядзелі інакш. Магчыма, праз яго цяжкія адносіны з гэтым краем, куды ў дзяцінстве ён разам з маці пераехаў з Вінніцы. Стус на ўсё жыццё запомніць і пасля апіша дзіцячую крыўду: жанчыны ў бараку смяяліся з яго вышыванкі. Данецк у яго запісах выяўлены як вельмі несімпатычны горад шэрых пралетарыяў. Такіх ацэнак паэту мясцовыя не прабачылі і пазней упарта сабатавалі ініцыятывы ўшанаваць памяць паэта — назваць у яго гонар мясцовы ўніверсітэт (тут Васіль Стус вучыўся на філфаку).

Пасля таго, як Данецк застаўся па той бок лініі размежавання, падавалася, канфлікт вычарпаны. Ролю і значэнне паэта для ўкраінскай літаратуры ніхто не аспрэчвае. Аднак тэма Стуса ўсё роўна засталася мегапалітызаванай. Гэтым разам праз нядаўняе вяртанне ў палітыку адыёзнага Віктара Медведчука — аднаго з дэміургаў рэжыму Кучмы, які цяпер стаў лідарам галоўнай прарасійскай партыі «Аб'яднаная платформа за жыццё».

Дзіўным чынам менавіта малады Віктар Медведчук у 1980 годзе быў адвакатам Васіля Стуса. Як вынік — партыі Майдану сёння

**Ёсць аргументы, на карысць таго, што Медведчук мог мець сталыя кантакты са спецслужбамі, якія, быццам, інструктавалі яго, як паводзіць сябе падчас суда над Стусам**

спрабуюць выставіць апанента адказным за трагічны лёс паэта. Версія пра датычнасць Медведчука да смерці паэта трымаецца на тым, што абарона падчас працэсу паводзіла сябе вельмі пасіўна. Больш за тое, у заключным выступе адвакат заявіў, што ўсе злачынствы падсуднага заслугоўваюць пакарання, хаця мог паспрабаваць перафармуляваць частку абвінавачванняў, што, у сваю чаргу, магло б паўплываць на вердыкт Феміды.

Сам Медведчук у шэрагу інтэрв'ю тлумачыць свае паводзіны ў судзе пазіцыяй Стуса. Той не толькі спрабаваў адмовіцца ад дзяржаўнага адваката, але ўвогуле ігнараваў пытанні суддзі ды называў савецкую сістэму «фашысцкай». Абаронцу, маўляў, заставалася толькі рабіць эфект прысутнасці.

На гэта крытыкі Медведчука ўзгадваюць цікавыя рысы яго біяграфіі. Той нарадзіўся ў Сібіры, куды яго бацьку — украінскага нацыяналіста, — адправілі ў ссылку. Нягледзячы на такі салідны кампрамат, Медведчук прымудрыўся паступіць на прэстыжны кіеўскі юрфак, а пасля дзіўным чынам не вылецець з ВНУ за ўдзел у гучнай бойцы. Усё гэта дазваляе казаць, што Медведчук мог мець сталыя кантакты са спецслужбамі, якія, быццам, інструктавалі яго, як паводзіць сябе падчас суда над Стусам.

Усе гэтыя тэмы прысутнічаюць на старонках кнігі Вахтанга Кіпіяні «Справа Васіля Стуса», якая днямі пабачыла свет і адразу выклікала гнеўную рэакцыю Медведчука. Ён запатрабаваў прыпыніць продаж твора і падаў на Кіпіяні ў суд, які павінен пачацца ў кастрычніку. Адначасова трэба чакаць працэсу супраць стваральнікаў фільма «Забороненій», што таксама прысвечаны Стусу і выходзіць у пракат на гэтым тыдні. Яшчэ на этапе здымак юрысты Медведчука запатрабавалі выдаліць з фільма сцэну судовага працэсу над паэтам. Здымачная група вырашыла эпізод пакінуць.

Цяперашні «працэс пра працэс Стуса» абяцае быць вельмі рэзанансным, паколькі яго ўжо пачалі асвятляць медыя, звязаныя з партыямі Майдана. Няма сумневу, што яны збіраюцца выкарыстаць суд для атакі на пазіцыі палітычнага праекту Медведчука.

А вось рэакцыя грамадства на новую справу Стуса пакуль непрадказальная. Трыумф Зяленскага сведчыць, што пазіцыя «публічных інтэлектуалаў», «маральных аўтарытэтаў» і «лідараў думак», якія выступалі супраць абрання клоуна, простаму чалавеку фіялетавая. Прычым, наступствы гэтага феноменальнага бунту супраць эліты палітолагі пачынаюць разумець толькі цяпер. Як адзначае адзін з каментатараў, «украінскія выбаршчыкі, што галасавалі ў абсалютнай большасці за "Слугу народа", адмовіліся ад прынцыпу палітычнай канкурэнцыі, якая на ўсім працягу постсавецкай гісторыі адрознівала Украіну ад суседніх Беларусі і Расіі».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Карл XVI

Кароль Швецыі прызнаўся, што існуе пагроза яго жыццю і сям'і. Крыніца пагрозы — вулічныя маладзевыя банды, якія актывізаваліся апошнім часам.

За апошнія тыдні ў краіне адбылося некалькі нападаў, удзельнікі якіх нават выкарыстоўвалі гранаты. На працягу толькі трох дзён у Мальмё і Стакгольме былі застрэленыя дзве жанчыны. Прычым гэта — устойлівы трэнд. Паводле звестак урада, у Швецыі ў мінулым годзе было 306 забойстваў і 162 выбуховых напады. Па ліку згвалтаванняў на 100 тысяч жыхароў Швецыя трывала займае «лідзіруючыя» пазіцыі ў Еўропе.

Большасць экспертаў лічаць, што рост злачынстваў абумоўлены маргіналізацыяй мігрантаў. Шмат з іх, асабліва моладзь, далучаецца да крымінальных груповак. Цяпер колькасць іх чальцоў дасягае каля 18 тысяч чалавек.

Пакуль улады не ведаюць, як комплексна вырашыць праблему. Хіба што дырэктар МУС яшчэ ў ліпені прапанаваў зрабіць пакаранне за ўдзел у вулічных нападах больш жорсткім. Таксама прапануецца ўвесці ў Крымінальны кодэкс асобны артыкул за нелегальнае набыццё выбухоўкі і зброі.

### Уладзімір Бартко



Вядомы рэжысёр і цяпер ужо экс-кандыдат ад Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) падчас дэбатаў заявіў аб тым, што здымаецца з выбараў. Паводле яго слоў, ён не жадае «гуляць у дурня мечанымі картамі».

Дзеянні Бартко справакавалі палітычны крызіс. Піцерскі часовы губернатар Аляксандр Бяглоў не карыстаецца асаблівым даверам жыхароў горада на Няве. Адсутнасць у спісе Бартко ператварае выбары ў фарс.

Аднак больш цікавая падаплёка рашэння Бартко. Ёсць меркаванне, што кіраўніцтва КПРФ прымусіла рэжысёра знянцца, каб знізіць яўку і забяспечыць перамогу Бяглову. Дарэчы, так зюганаўцы паступалі неаднаразова ў іншых рэгіёнах. Не выключаюць, што на Бартко націснулі з каманды Пуціна, дзе заклапочаныя новай тактыкай Аляксея Навальнага. Навальны прапануе разглядаць выбары 8 верасня як дзень пратэстнага галасавання супраць прадстаўнікоў улады. Прычым большасць пратэстных кандыдатаў у спісе Навальнага — сябры КПРФ, якой адводзіцца асаблівая роля ў падрыхтоўцы Майдана.

Згодна з самай смелай версіяй, рашэнне Бартко — не экспрэсіўны ўчынак 73-гадовага старога, а інвестыцыя ў палітычную будучыню. Падзенне даверу да «Адзінай Расіі» змушае Крэмль перазагрузіць партыйны пейзаж. На месцы КПРФ можа быць створана новая левая партыя, для якой Бартко — добры лідар ці, як мінімум, пазнавальная асоба.



### Лусіяна Марын Аранга

Адзін з былых лідараў групоўкі Рэвалюцыйныя ўзброеныя сілы Калумбіі (FARC), якая тры гады таму склала зброю ў рамках мірнай дамовы з уладамі, зачытаў заяву, згодна з якой FARC зноў пачынае ваенныя дзеянні. Такім чынам у Лацінскую Амерыку вяртаецца самы стары ўзброены канфлікт, які доўжыўся 52 гады.

Да 2016 года, калі ў Гаване падпісалі мір, у ваенных дзеяннях былі забітыя прыкладна 216 тысяч чалавек. Зноў узяцца за зброю, як вынікае з тэксту заявы, экс-партызанаў прымусіла палітыка прэзідэнта Івана Дуке Маркеса, які сабатуе пагадненне.

Зрэшты, спецыялісты лічаць, што ўсё да гэтага ішло. Некаторыя важныя палажэнні дамовы былі прапісаны вельмі абстрактна. Правая грамадскасць была незадаволеная тым, што партызаны атрымалі мяккія прысуды за свае злачынствы і аўтаматычна — месцы ў парламенце. Левая частка калумбійскага грамадства была занепакоеная фактамі забойстваў сацыяльных і грамадзянскіх актывістаў у раёнах, дзе FARC склала зброю. Зараз галоўная інтрыга — як шмат людзей падтрымаюць Аранга і сыдуць з ім у падполле.

Цікава, што тыя партызаны, якія пайшлі ў палітыку, раскрытыкавалі Аранга і яго паплечнікаў ды паабяцалі працягнуць мірны працэс.

# Брэст\Берасце: рысы 1000-годдзя

Яўген БЯЛАСІН

**Самы заходні і адначасова самы паўднёвы абласны цэнтр краіны 6–8 верасня афіцыйна адзначае свой Міленіум. З гэтай нагоды — некалькі рысак берасцейскага хранатопу.**

### Чаму Буг цячэ так, а не гэтак?

Месца пад горад было абранае невыпадкова — тут, ля ўпадзення ў Заходні Буг адразу некалькіх рэчак, зручна было мець як мінімум перавалачную базу для тавараў. Са старых часоў захаваліся толькі два рукавы Мухаўца, якія ўпадаюць у «негалоўны» Буг.

Чаму важную раку тут «разжалавалі»? Паводле патаемнага пратакола пакту Молатава–Рыбентропа аб падзеле Польшчы, у 1939 годзе па Бугу павінна была прайсці новая мяжа. Праз нейкі час пасля таго, як патаемныя планы часткова ўвасобіліся ў рэчаіснасць, у прыватнасці, пасля сумеснага параду ў Брэст-Літоўску вайскоўцаў генерала Гудэрыяна і камбрыга Крывашэіна, германцы і «чырвоныя» дамовіліся пра ўдакладненне межаў у горадзе і ваколіцах. Бальшавікі за ноч прысыпалі галоўнае рэчышча перад Брэсцкай крэпасцю — і Буг стаў цячы галоўнымі водамі па абводным, больш заходнім рэчышчы, ды пакінуў Тэрэспальскую выспу прыбышам з Усходу.

Гандаль гандлем, але часам малпа перамагае чалавека, апаноўвае жаданне прысабечыць чужое майно «за так», гвалтам — і развязваюцца войны. Менавіта такім планам без асаблівых ваганняў быў прынесены ў ахвяру старажытны горад Берасце: за тры гады, з 1833 па 1836, яго знеслі, «празначыўшы» пад Брэст-Літоўск былыя ўсходнія прыгарады\слабодкі ў трох кіламетрах, а на яго месцы пабудавалі крэпасць, адну з некалькіх на «новоприобретенных» пасля падзелу Рэчы Паспалітай тэрыторыях. Цэнтральны востраў, дзе быў уласна Стары Горад з муніцыпальнымі (паводле Магдэбургскага права), дзяржаўнымі прысутнымі месцамі, дзясяткам храмаў розных веравызнанняў, некалькімі палацамі, аддалі пад Цытадэль. Яе абнеслі па перыметры двухпавярховай кальцавой казармай, а ў цэнтры на месцы Кляштара аўгусцінаў паставілі прыземістую (каб не арыентаваць артылерыю праціўніка) Гарнізонную царкву, якую чырвонаармейцы потым перастварылі ў клуб.



Мост цераз правы рукаў Мухаўца ў спраўным стане


Сучасны стан моста

### Балта-Чарнаморскі масток

Чатыры астравы крэпасці злучалі масты. Выява аднаго з іх, жалезабетоннага пад'ёмнага, вельмі дарэчы да 1000-годдзя горада вынырнула з архіўных глыбінь. Мясцовы сайт «Рэальны Брэст» апублікаваў яго фота да разбурэння з важным каментарам. Мост меў рухомую (падымалася сістэмай шасцерняў і тросаў з апорай на чатыры жалезныя пілоны) сярэднюю секцыю даўжынёй шэсць з паловай метраў.

Новую, 1911 года будовы, пераправу рускія сапёры ўзарвалі разам з парахавымі склепамі і іншымі аб'ектамі Брэсцкай крэпасці перад сваім адступленнем у Першую сусветную вайну. Палякі аднавілі мост, але разбурылі яго, калі адступалі пасля трохдзённай абароны горада ў 1939 годзе. Ад спаруды захаваліся рэшткі — два магутныя быкі, тры пілоны пад'ёму і такія-сякія элементы надбудовы. Гэта ўсё без праблем можна пабачыць там, дзе правы рукаў Мухаўца ўцякае ў Буг — пагатоў, апошнім часам улетку ўзровень Мухаўца (як і Буга) традыцыйна зусім нізкі.

«Рэальны Брэст» цытуе словы будаўніка моста інжынера Івана Бялінскага — той тлумачыць, чаму мост меў асаблівую канструкцыю. Каб пад'ём «забяспечваў пропуск па рацэ караблёў, якія плылі па Дняпроўска-Бугскай сістэме, што звязвае Балтыйскае і Чорнае моры».

Мэта? Усё ж такі гандаль. Мост у Брэст-Літоўску, як і разводныя масты ў Пецярбургу, мусіў не разрываць водныя камунікацыі. Канструкцыю меў, як бачым, іншую, больш сціплую і адпаведную маштабам воднай артэрыі. Але са сваёй задачай у адведзены яму час, відаць, спраўляўся — прапускаў тавары на захад па Бугу і Вісле да Балтыйскага мора і ў другі бок, па Мухаўцы, Прыпяці і Дняпры да Чорнага мора.

Цяпер тыя тавары вадой не возяць, але... Напоўніцу абмяркоўваецца ўжо некалькі гадоў як запраектаванае аднаўленне воднага шляху Е40. Так па-сучаснаму называецца згаданы Бялінскім шлях з Балтыйскага ў Чорнае мора. Фігуруюць у абмеркаваннях і таннасць водных камунікацый, асабліва ў параўнанні з аўтамабільнымі перавозкамі, і большая тэхналагічнасць, і больш спрыяльны да прыроды, экалагічны характар такога спосабу транспарціроўкі. Апошняе аспрэчваецца найбольш. Недзяржаўныя беларускія актывісты ў пераважнай большасці ганяць ідэю, нягледзячы на два важкія аргументы: традыцыйнасць такога гандлёвага вектару і яго выратавальную інструментальнасць ва ўмовах звалакання нас за валасы ў «таежныя» нетры. Аргумент іх акурат экалагічны: маўляў, даб'ем і так напаўжывую Прыпяць ды запаведныя тэрыторыі вакол яе.

**Бальшавікі за ноч прысыпалі галоўнае рэчышча перад Брэсцкай крэпасцю — і Буг стаў цячы галоўнымі водамі па абводным, больш заходнім рэчышчы, ды пакінуў Тэрэспальскую выспу СССР**

Чамусьці па-за ўвагай застаецца тое, як без гвалту зрабілі суседзі-палякі. У іх жа Буг таксама працякае праз запаведную Белавежскую пушчу. Былі ўзятыя сродкі ад Еўрасаюза — і пракапаны канал у абход запаведнай зоны. Кропка. Дарэчы, шлюзавая інфраструктура старога воднага шляху на польскай тэрыторыі была (і гэта задакументавана) у нашмат горшым стане, чым беларуская. Так што старое фота не можа не штурхаць на роздумы і развагі пра выгаду «вадзянога» гандлю.

Былі аргументы і «за», і «супраць», каб да Міленіуму аднавіць пад'ёмны мост. Пакуль у актыве распрацаваны адмыслоўцамі праект аднаўлення. Лагічна думаць, што найбольш шанцаў на ажыццяўленне праект мае ў пакеце з аднаўленнем гандлёвага воднага шляху Е40.

### Старое Берасце: навейшая праява

Напрыканцы бягучага лета Старое Берасце нечакана прыадчынілася людзям. Пры рэстаўрацыйна-кансервацыйных работах на руінах былога Калегіума езуітаў (часамі крэпасці — Інжынернае ўпраўленне) адкрыліся скляпенні. І ў сваёй кнізе «Подземелья Брестской крепости и...», і ў артыкулах я шматкроць пісаў: адтуль можа быць падземная камунікацыя з Гарнізоннай царквой (былым кляштарам аўгусцінаў). Спасылаўся я на сведчанне протаіерэя Ігара Умца, нядаўняга (да яго смерці) настаяцеля Гарнізоннай царквы, і на значна правалены ганак будынка.

Стан справы на канец жніўня — час напісання гэтага матэрыялу — такі: работы прыпыненыя. Стэнд інфармуе, што працу забяспечвае «бюджэт Саюзнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі». Заканчэнне запланавана на 31 снежня бягучага года. Як паведаміла намеснік дырэктара Мемарыяла «Брэсцкая крэпасць» па навуковай частцы Ларыса Бібік, кіраўніцтвам рэстаўрацыйных работ было прынятае рашэнне спачатку ўмацаваць аслабленыя перакрыцці, «каб без лішняй патрэбы не падвяргаць небяспецы рэстаўратараў і даследчыкаў», а потым — «магчыма, ажыццявіць доступ у падземны гарызонт будынка адмыслоўцаў».

Фота фіксуе: сапраўды, такая праца зробленая. Ці даведаецца грамадскасць нешта новае пра падзямеллі да 6–8 верасня? Ці адкрыюць іх увогуле? Чакаем.

**Фота з сайта «Рэальны Брэст» і аўтара**


Раскрытыя скляпенні былога Калегіума езуітаў


Умацаванае перакрыцце скляпенняў

# Як князь Паскевіч Венгрыю ўтаймоўваў

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У 1848 годзе ў Еўропу прыйшла «вясна народаў» — у Францыі, Германіі, Італіі, Аўстрыі, Венгрыі і іншых краінах разгараліся рэвалюцыі.**



Бой рускіх уланаў і венгерскіх гусараў

## Апошнія дні імперыі?

Венгрыя з XVII стагоддзя знаходзілася пад уладай Аўстрыйскай імперыі, якая прыйшла на змену Асманскай. Але лепш венграм ад гэтага не стала. У Трансільваніі і іншых землях, занятых аўстрыйцамі, не раз успыхвалі паўстанні венграў-пратэстантаў, гайдукоў і паўстанцаў — «куруцаў», часцяком зноў арыентаваных на Турцыю. Але ў выніку каралямі Венгрыі сталі аўстрыйскія імператары з дынастыі Габсбургаў, а ўсё жыццё венграў было падпарадкаванае Вене. Дзяржаўнай мовай стала нямецкая, самакіраванне мадзьяраў было абмежаванае. Сяляне былі прыгоннымі і падлягалі судовай уладзе памешчыкаў.

У 30–40-х гадах XIX стагоддзя грамадскі рух у Венгрыі падзяляўся на некалькі лагераў — кансерватараў, лібералаў і дэмакратаў. Кансерватары абмяжоўваліся патрабаваннямі суверэнітэту ў інтарэсах нацыянальнай арыстакратыі. Лібералы таго часу выступалі з шырокай праграмай дэмакратычных пераўтварэнняў і вызвалення сялян за выкуп. А дэмакраты патрабавалі поўнага і рэвалюцыйнага вырашэння сялянскага і нацыянальнага пытання. Пасля весткі аб рэвалюцыі ў Парыжы лідар лібералаў Лаёша Кошут выступіў у Дзяржаўным сходзе з заклікам да ўвядзення Канстытуцыі і адказнага перад дэпутатамі ўрада. Аднак аўстрыйскі двор адхіліў гэтыя і іншыя патрабаванні з «12 пунктаў», вылучаных венгерскімі дзеячамі. У адказ у Венгрыі ўспыхнула паўстанне, у якім значную ролю гулялі дэмакраты на чале з паэтам Шандарам Пецёфі (Аляксандр Пятровіч), венгерскім патрыётам серба-славацкага паходжання.

Аўстрыйскі імператар і венгерскі кароль Фердынанд V у сакавіку 1848 года быў вымушаны пашырыць аўтаномію Венгрыі. А затым у красавіку — прызнаць і заваёвы венгерскай рэвалюцыі. Венгрыя ліквідавала прыгон і перадала частку памешчыцкай зямлі сялянам за дзяржаўны выкуп, адмяніла памешчыцкі суд, царкоўную дзесяціну і іншыя прывілеі дваран і святароў. У краіне ўводзіліся свабода друку і адказны перад парламентам урад.

Аўстрыйскі ўрад, заняты барацьбой з нацыянальна-вызваленчым рухам у Італіі, гатовы быў усё гэта прыняць. Калі б не славяне. Бо ў Пешце засталіся абыякавымі да інтарэсаў харватаў, сербаў, славакаў, славенцаў, украінцаў, а таксама румын Трансільваніі, чые землі яшчэ раней былі захопленыя Венгрыяй. І тады кіраўнік (бан) Харватыі Ёсіп Елачыч, у сваю чаргу, абвясціў аўтаномію «краатаў». А затым накіраваў свой памежны корпус супраць рэвалюцыйнага вугорскага ўрада. Венгры разбілі апалчэнцаў Елачыча, але пасля гэтага былі абвешчаныя ў Вене мяцежнікамі. Пачалася вайна — гэтым разам з аўстрыйскай імперскай арміяй. Венгерскія войскі ледзь не занялі Вену, ахопленую паўстаннем, але былі адбітыя. Венгерская рэвалюцыйная армія да вясны 1849 года зноў рушыла на Вену. Імперыя Габсбургаў, здавалася, дажывала апошнія дні...

## За нашу і вашу свабоду

Весткі пра еўрапейскія рэвалюцыі былі вельмі хваравіта ўспрынятыя пры пецярбургскім двары. У царскім маніфесце яшчэ ў сакавіку 1848 года гэтыя падзеі былі названыя «шаленствам».

Але Мікалай І выдатна разумеў, на якім хісткім падмурку пабудаваная яго ўласная прыгонніцкая імперыя. Варта якім-небудзь разначынцам растлумачыць непісьменным сялянам заклікі гальскіх і мадзьярскіх бунтаўшчыкоў супраць паноў — і пішы-прапала. Дый вечна непакорлівыя Польшча і ВКЛ гатовыя ўспыхнуць чарговым бунтам у любы момант.

У рэвалюцыйнай венгерскай арміі, дарэчы, ужо ваявалі атрады «інтэрнацыяналістаў» з розных краін. У іх ліку — два легіёны, сфармаваныя з удзельнікаў паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі ў 1830 годзе. Афіцэр расійскай службы Юзэф Бем быў адным з распрацоўшчыкаў баявых ракет, у Венгрыі ён камандаваў арміяй і стаў адным з самых лепшых рэвалюцыйных генералаў. Генрых Дэмбінскі нават стаў на кароткі час галоўнакамандуючым венгерскімі ўзброенымі сіламі, праўда — не вельмі паспяховым. Вызначыўся ў баях і камандзір легіёна Юзэф Высоцкі.

## На дапамогу

У пачатку 1849 года венгерскія гусары і гонвед у чырвоных кепі зноў ірваліся наперад — да Вены. Габсбургі, не здольныя больш супрацьстаяць рэвалюцыі, адправілі запыт аб маштабнай ваеннай дапамозе да расійскага цара. Расійскія войскі ўжо пабылі да гэтага часу ў Трансільваніі — але, пацярпеўшы паразу ля Германштадта ад таго ж Бема, вымушаныя былі разам з аўстрыйцамі адыйсці ў Румынію.

Мікалай І загадаў рыхтаваць армію для дапамогі. Узначальваць яе прызначыў генерал-фельдмаршала Івана Паскевіча, князя Варшаўскага, графа Эрыванскага. Дый каму яшчэ, як не ўлюбёнцу цара, варта было камандаваць гэтым паходам? Пераможца туркаў і персаў, ён лічыўся ў імперыі лепшым палкаводцам. За што і стаў, у ліку іншага, уладальнікам Гомельскага маёнтка. Тым больш, што іншыя «лепшыя», як Аляксей Ярмолаў, за сувязь з дзекабрыстамі даўно былі ў няміласці. Сам жа Іван Фёдаравіч удзельнічаў у судзе над дзекабрыстамі і камандаваў рускімі войскамі падчас падаўлення паўстання ў Рэчы Паспалітай у 1830–1831 гадах. А стаўшы затым намеснікам у Царстве Польскім, суровай рукой караў там усякае вальнадумства. Не забываўся і пра свае інтарэсы, набыўшы багатыя трафеі і польскія маёнткі.

Сілы ўварвання ў Венгрыю былі сфармаваныя з войскаў, якія стаялі каля заходніх межаў Расійскай імперыі. Але пакуль яны рыхтаваліся, прэм'ер-прэзідэнт Шварцэнберг звярнуўся асабіста да Паскевіча з адчайнай просьбай неадкладна выратаваць Вену. І намеснік Валадарства Польскага, нават не чакаючы загаду імператара, у красавіку 1849 года даслаў на выручку Габсбургаў дывізію генерала Фёдара Панюціна. Войскі хутка перакідваліся па толькі што адчыненай Варшаўска-Венскай чыгунцы. І рускія багінеты выратавалі сталіцу Аўстрыйскай імперыі ад падзення...

У чэрвені 1849 года ўжо 100-тысячная расійская армія перавалiла Карпаты. Венгерскія рэвалюцыйныя сілы на чале з генералам Артурам Гёргеем саступалі царскай у колькасці, і шмат у чым складаліся з дрэнна навучанага апалчэння. Сам Гёргей, з дваран-пратэстантаў, прытрымліваўся досыць кансерватыўных поглядаў і канфліктаваў з рэспубліканскім нацыянальным урадам Лаёша Кошута. Генеральнай бітве венгерская армія палічыла за лепшае майстэрскае манеўраванне, вымотваючы суперніка лакальнымі сутычкамі і ўдала выслізваючы з-пад удараў. Генерал-фельдмаршал Паскевіч дзейнічаў жа вельмі пасіўна. 3 ліпеня войска Гёргея сустрэлася з царскай арміяй у Вайцена, бой скончыўся ўнічыю. Расійскія войскі амаль утрая пераўзыходзілі венграў, але Паскевіч не наважыўся атакаваць яго на наступны дзень. І генерал Гёргей спакойна адвёў сваю армію праз горы, імкнучыся выйсці ў глыбокія тылы ворага.

Але затым мадзьярскае войска апынулася амаль у акружэнні ля сяла Гестэлі, заціснутае з розных бакоў трыма рускімі атрадамі. Але адважныя венгры не здаліся, а Паскевіч зноў прамарудзіў з загадам замкнуць кола. 16 ліпеня венгерская армія моцным артылерыйскім агнём адкінула атрад Грабе, заняла Такай. Артылерыя, што складалася шмат у чым з гарадскіх рабочых і рамеснікаў, была моцным бокам паўстанцаў. Падпалкоўнік Генеральнага штаба Андрыянаў пісаў пасля: «Князь Паскевіч, усё яшчэ баючыся за свае паведамленні, не пайшоў рашуча на поўдзень, каб перахапіць шлях венгерскай арміі, а заняў чакальную пазіцыю на рацэ Ціса... Потым руская армія асцярожна, вобмацкам, не маючы звестак аб суперніку, пасоўвалася на ўсход ... і 20 ліпеня атрымала весткі, што Гёргей ужо за Цісай».

Затым адбыўся бой каля Дэбрэчына, фактычнай сталіцы рэвалюцыйнай Венгрыі. І тут абодва праціўнікі дзейнічалі амаль усляпую — але цалкам розным чынам. Над-Шандор, які камандаваў венграмі, не ведаў, што перад ім — усё расійскае войска. Але натхнёны падтрымкай мясцовага насельніцтва, якое сфарміравала ў дапамогу яму Нацыянальную гвардыю, ён смела пайшоў у наступ. Паскевіч, наадварот, лічыў, што перад ім — уся венгерская армія. У падначаленні фельдмаршала знаходзілася 12 тысяч конніцы, але яго разведка нават прыкладна не змагла вызначыць сілы суперніка. 21 ліпеня царскія войскі, пашыхтаваныя ў баявы парадак, рушылі наперад. Перасечаная мясцовасць парушыла парадак шчыльных шэрагаў, і тады расійскія войскі згарнуліся ў паходныя калоны. Затым — зноў разгарнуліся да бою.

Такім чынам войскі падыходзілі да поля бою на працягу двух гадзін. Замест нанясення ўдару па левым флангу суперніка, што адсек бы яму шляхі адыходу на Цімішэвар, Паскевіч атакаваў правы фланг. Венгры спешна адступілі, перасцедаваліся казакамі і каўказскай конніцай, але зберaглі свой асабісты склад.

Тым часам Гёргей з асноўнымі сіламі, фактычна ашукаўшы Паскевіча, заняў Грос-Вардэйн. Рускае войска затрымалася ў Дэбрэчыне, чакаючы падвозу харчоў.

## Пірава перамога князя Варшаўскага

Падпалкоўнік рускага Генштаба Андрыянаў лічыў, што руская армія ваявала стойка і цалкам заслужыла хвалу сваіх саюзнікаў — аўстрыйцаў. Але «нядобра ішла справа камандавання войскамі на галоўным тэатры», — піша Андрыянаў. «Князь Паскевіч пахаваў у гэтым паходзе сваю ваенную славу, са 100-тысячным войскам ён тройчы прапусціў шанец знішчыць 20–25-тысячную армію суперніка (Вайце, Мешкольц, Дэбрэчын), бязмэтна манеўруючы ў даліне ракі Цісы, выпусціў з рук армію Гёргея, не карыстаўся сваёй шматлікай конніцай для разведкі. На працягу ўсяго паходу князь Паскевіч перабольшваў сілы праціўніка ўдвая, і таму ўвесь час дзейнічаў з асцярожнасцю, неапраўданай сапраўднай становішчам. Падыход у 20 вёрстаў 63-тысячнага войска да Дэбрэчыну ў баявым парадку цалкам характарызуе стратэгічныя і тактычныя таленты князя Паскевіча».

Сілы былі няроўныя. І 13 жніўня ля Вілагоша армія Гёргея вымушаная была капітуляваць. Пасля гэтага 18 жніўня ў Трансільваніі склала зброю і армія Юзэфа Бема. Яго ад'ютант Шандар Пецёфі паў незадоўга да гэтага — у баі ў Шэгешавара ў Трансільваніі. А паводле апакрыфічнай версіі, маёр і паэт Пецёфі апынуўся ў рускім палоне і памёр у Сібіры. Сам Юзэф Бем і многія іншыя ваяры збеглі ў Турцыю. І, каб пазбегнуць выдачы цару, — прынялі іслам.

Юзэф Бем у 1850 годзе, пасля падаўлення сірыйскага паўстання ў Алепа, памёр там ад хвароб пад імем Амурат-пашы. Паводле злой іроніі, некаторыя з паўстанцаў, якія яшчэ нядаўна змагаліся «за нашу і вашу свабоду», на турэцкай службе прынялі ўдзел у падаўленні выступленняў балканскіх народаў. А вось Юзэф Высоцкі браў удзел у паўстанні Каліноўскага ў 1863 годзе.

У 1848 годзе царскія войскі ўвайшлі ў княства Малдову і Валахію і дапамаглі туркам задушыць выступы іх «адзінаверных» жыхароў супраць асманскага валадарства. Прынцып падтрымкі «легітымных» імперый і саюза ўсіх рэакцый супраць усіх народаў узяў верх і тут.

Аўстрыйцы пакаралі смерцю палонных венгерскіх генералаў. Артуру Гёргею жыццё было захаванае, што дало падставу сучаснікам абвінавацiць яго ў здрадзе. Толькі потым галоўнакамандуючы быў рэабілітаваны ў грамадскай думцы. Расійскі і аўстрыйскі імператары засыпалі Паскевіча і яго генералаў узнагародамі.

Зачараваныя перамогай над нешматлікай, дрэнна навучанай паўстанцкай арміяй, Мікалай І і Паскевіч перасталі звяртаць увагу на абуральную тактычную і тэхнічную адсталасць сваіх войскаў. За што жорстка паплаціліся ў Крымскай вайне, якая разгарэлася праз чатыры гады. Ужо з самага пачатку кампаніі Вена заняла вельмі нядобразычлівую пазіцыю ў дачыненні да і сваіх нядаўніх выратавальнікаў. Чым цалкам перакуліла разлікі Мікалая І. Галоўнакамандуючы рускай арміяй князь Паскевіч дзейнічаў на Дунаі яшчэ менш рашуча, чым падчас венгерскага паходу. Бо любымі сваімі паспяховымі дзеяннямі ён баяўся выклікаць умяшанне Аўстрыі і Прусіі. Па гэтай жа прычыне князь Варшаўскі не даслаў належнай колькасці рускіх войскаў у Крым ды пакінуў яго ўразлівым перад высадкай саюзнікаў.

Састарэлы фельдмаршал Паскевіч, прыгнечаны паразамі, цяжка захварэў і памёр у Варшаве ў студзені 1856 года. А ў Гомелі цяпер фармуецца культ цалкам афіцыйнага шанавання князя Паскевіча-Эрыванскага...

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы, што ўласцівасці адрэналіну адкрыў беларус? І чаму вернікам лепш не піць 11 верасня? Гэтыя і іншыя цікавыя факты — у нашым аглядзе.**

### 7 верасня

**1764.** Станіслаў Аўгуст Панятоўскі абраны каралём польскім і вялікім князем літоўскім. З дапамогай расійскай імператрыцы Кацярыны II, былой каханкі, Панятоўскі стаў апошнім кіраўніком Рэчы Паспалітай, канчатковы падзел якой адбыўся ў 1795 годзе. Па запрашэнні Паўла I Панятоўскі стаў жыць у Санкт-Пецярбургу, дзе і памёр. У 1938 годзе перапахаваны ў Воўчыне (Камянецкі раён Брэстчыны), дзе нарадзіўся, а ў 1995-м — у Варшаве.



Станіслаў Аўгуст Панятоўскі

**1919.** У вёсцы Пушкары Віцебскага раёна нарадзіўся пісьменнік Алесь Асіпенка. Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» і газеты «Літаратура і мастацтва», суаўтар сцэнарыяў мастацкіх фільмаў «Ясь і Яніна», «Трэцяга не дадзена».

### 8 верасня

**1514.** Адбылася бітва пад Оршай. Войска ВКЛ пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага разбіла амаль утрая большую армію Масковіі.




**1844.** Выйшла першая кніга зборніка Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апаваданнях».

**1954.** У Мінску нарадзіўся палітык, стваральнік і лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргей Гайдукевіч. Удзельнічаў у некалькіх прэзідэнцкіх выбарах. Палітолагі называюць яго спарынг-партнёрам Аляксандра Лукашэнкі.

### 9 верасня

**1944.** Заключанае пагадненне паміж БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення аб узаемнай эвакуацыі насельніцтва ў сувязі ў тым, што Беласточчына перадавалася ад Беларусі Польшчы. З нашай краіны ў Польшчу выехалі 27 тысяч чалавек, а з Польшчы да нас перабраліся 36 тысяч.

### 10 верасня

**1929.** У Рослаўлі Смаленскай вобласці Расіі нарадзіўся беларускі кампазітар, дырыжор і педагог Яўген Глебаў. Яго творы: оперы «Твая вясна», «Майстар і Маргарыта», аперэты «Прытча пра наследнікаў», «Мільянерка», музычная камедыя «Калізей», балеты «Мара», «Выбранніца», «Альпійская балада», «Ціль Уленшпігель», «Курган», «Маленькі прынц». Напісаў музыку да мноства фільмаў: напрыклад, «Трэцяя ракета», «Я родам з дзяцінства», «Дзікае паляванне караля Стаха».



Яўген Глебаў

**1990.** Пачалася ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

### 11 верасня

**Агульнацаркоўны дзень цвярозасці:** у беларускіх праваслаўных храмах ладзяцца адпаведныя малебны. Упершыню адзначаўся ў Расійскай імперыі ў 1913 годзе, калі спажыванне алкаголю на душу насельніцтва было што ў Расіі, што ў Беларусі, у некалькі разоў меншым.

**1938.** Адкрыты для наведвальнікаў Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку.

### 12 верасня

**1929.** У вёсцы Калюціна Расонскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся драматург Мікалай Матукоўскі. Яго п'есы — «Амністыя», «Апошняя інстанцыя», «Мудрамер».

**1959.** У Смалявічах на Міншчыне нарадзіўся Уладзімір Алейнік, сярэбраны і бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў па скачках у ваду.

**1964.** У Вялікабрытаніі памёр польскі пісьменнік-авантурнік беларускага паходжання (родам з Ляхавічаў) Сяргей Пясецкі. Пачытайце, напрыклад, яго кнігі «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» і «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі».

### 13 верасня

**1854.** У вёсцы Крываносы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся беларуска-польскі філосаф і фізіёлаг Напалеон Цыбульскі. Вызначыў хуткасць кровазвароту і масу крыві пры дапамозе прапанаванага ім прыбора — фотагематометра. Адкрыў уласцівасці адрэналіну.

**1944.** У Мінску (або, па некаторых звестках, у Мар'інай Горцы) нарадзіўся беларускі акцёр, заслужаны артыст Беларусі Алесь Лабанок. З 1969 года працаваў у Беларускім нацыянальным драматычным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. Памёр 19 верасня 2005 года.

**1994.** Дзяржаўная камісія па арфаграфіі, створаная ў Беларусі, апублікавала выніковыя рэкамендацыі, у якіх прызнавалася пажаданасць вяртання некаторых дарэформенных нормаў беларускай мовы.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1434

Падпісана да друку 06.09.2019. 8.00. Наклад 11800 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.